ЭДУАРД ВАЛАСЕВІЧ

# БЕГЕМОТ і іншыя

БАЙКІ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1982

## СІНЯЯ ПТУШКА

У каньёнах горных рэк Цянь-Шаня
Вандроўнік Птушку Сінюю злавіў.
Даўно ён марыў пра яе і сніў,
Легенды чуў і дзіўныя паданні.
Нібы вяртае маладосць яна,
Прыносіць шчасце і каханне,
Прыходзіць з ёю зноў вясна,
Спаўняюцца задумы, мроі і жаданні.
У клетку залатую заняволеную пасадзіў,
Насыпаў канапель, пшаніцы,
Вады ў крыштальны сподачак наліў:
— Жыві і радуйся, мая ты чараўніца!
Спявай і днём мне і ўначы
І дай ад шчасцейка ключы!
А Птушка Чалавеку сумна адказала:
— Які быць можа спеў?
Мне тут прасторы мала...
Над снежнымі вяршынямі свабодна я лунала
І пада мной паток дзікі шумеў,

Тады я Сонцу гімн спявала!
А ты, нядобры чалавек,
Замкнуў мяне за краты...
Будзь ты пракляты
З хвіліны гэнай і навек!
Бо хто над іншым чыніць гвалт і здзек,
Той шчасця сам не варты!
— Даруй! — Спалохаўся Вандроўнік не на жарты.
І клетку вынесшы на двор,
Раскрыў шырока дзверцы:
— Ляці да родных гор!
А мая мара — марай застаецца...
Цябе я буду сніць у снах.
Бывай! Шчаслівы табе шлях!

---

Свабоднай птушцы ў клетцы не пяецца,
Для шчасця трэба воля і прасцяг!



## ГАРЫЛА
## І АТАМНАЯ БОМБА

Знайшла Гарыла атамную бомбу
І пачала з апломбам
Яе, нібы какосавы арэх, угору падкідаць,
Узняўшы ў джунглях лямант дзікі.
Гарылу Слон стаў ушчуваць:
— Штосьці арэх задужа ўжо вялікі,
Калі каму на галаву ўпадзе,
Ды разаб'ецца —
Быць бядзе...
— Чаго спалохаўся? — Гарыла са Слана смяецца.—
Ну, разаб'ецца... Іншы ёсць арэх.

---

Што з малпы ўзяць? Яна дурніца.
А вось калі
Гарылы Пентагона пачалі
Гразіцца —
То не смех.
Іх папярэджваем з сур'ёзнасцю мы ўсёю:
Мы хочам міру, не вайны.
Ну, а палезеце, паны,
Дык не схавацца вам і пад зямлёю!

## ПРАДУГЛЕДЗІЎ...

*(Па тэме Анатоля Вялюгіна)*

Пасля дэмабілізацыі салдат
Прыйшоў да старшыні калгаса:
— Папрацаваць я рад
І, каб не бавіць марна часу,
Прашу мяне прызначыць трактарыстам!
Зірнуў на хлопца старшыня
І праказаў: — Не супраць я,
Бо ясна мне з характарыстак,
Што ты выдатным быў танкістам,
Ды і раней на трактары ж у нас рабіў...
І я з усёй душой! Але... пятрушка вось якая:
Няма машын. Ну, а пакуль іх атрымаем,
Цябе б я папрасіў
Механікам афарміцца ў майстэрні.
Ну як? Павер мне,
Табе я «Кіравец» апошняй маркі дам!
— Шаноўны старшыня, навошта турбавацца вам? —
Салдат прамовіў бравы.—
Ёсць трактар у мяне!
— Жартуеш штосьць. Адкуль ён у цябе, цікава?
— Ды я ж яго пакінуў там, у баразне,
Калі адходзіў у салдаты.
Дагэтуль жа на ўзлеску ён стаіць.
— Не можа быць! —
Падскочыў старшыня.— Мяне мо лічыш за вар'ята?

Каб трактар два гадочкі ў полі прастаяў?
І каб яго ніхто не ўбачыў?
— А я яго, прынамсі, прыхаваў —
Закідаў лапкамі, ламаччам,
Вось ён і ацалеў.
— Ах, сукін сын! Як ты пасмеў? —
Старшынька ўскіпяціўся.—
Ды я цябе аддам пад суд!
Адкуль ты, гэткі баламут,
На галаву маю зваліўся?..
Даведаюцца людзі — засмяюць!
Ты ўжо маўчы, салдат. Нідзе не вякай...

---

Вось тэхніку як часам «берагуць».
І гэта факт. Не байка.

## БАЦЯН І ЖАБА

На Бацяна ўзлавала Жаба —
Ён галавасцікаў яе ў балоце паглытаў:
— Ну, пачакай! Вазьму цябе за скабы!
Каб жыць ты мне не замінаў...
Вось толькі вырастуць хай зубы,
Тады ўжо, даўгадзюбы,
З табою расквітаюся спаўна,
Прыпомню кожную і крыўду і знявагу...

І, ўскочыўшы на пень-карчагу,
Цярпліва пачала чакаць яна
Пакуль у роце вострыя павырастаюць зубы...
Ды прыкархнула. А тут нагнала Бацяна.
І трапіла Жабоцька птаху ў дзюбу.

---

Даўно вядома нам:
Хто некаму рыхтуе згубу —
Ў бяду трапляе сам.

## «ГЭЙ, СУЧКУ, СУЧКУ, ПЕРАЙМАЙ!»

*(Па тэме Анатоля Вялюгіна)*

Гульня з агнём —
Не жарты.
І асабліва тут падкрэсліць варта
Яна недаравальна пад хмяльком.

---

Была субота.
На двары стаяла лютая спякота.
Дзядзькі ў чайную завіталі
І вырашылі горла прамачыць.
Піўка па куфлю заказалі.
Прыйшла ідэя паўтарыць.

А закусь добрая. Бутэльку ўзялі «Пліскі»
І пару пляшачак «Сібірскай».
З чайной пайшлі на ладненькім узводзе,
Ды пачалі дурэць, бязладна гаманіць,
А ім насустрач сучачка бяжыць!
Аднаму дзядзьку думка недарэчная прыходзіць:
— Давайце сучцы хвост падсмалім.
Вось будзе смеху!
Злавілі бедную сабачку спехам,
Пад хвост жмут паклі падвязалі,
Запалку чыркнулі і, кінуўшы ахвяру на зямлю,
У пальцы засвісталі
Ды загалёкалі: — Алю-лю-лю!
А сучачка, адчуўшы боль страшэнны,
Рванулася на сена́вал,
Успыхнуў ён імгненна!
І далей вогненны, шалёны шквал
Накінуўся на хаты,
Уся сяліба ўжо гарыць!
Ну а дзядзькі, замест таго каб полымя тушыць,
Крычаць прыдуркавата:
— Гэй, сучку, сучку пераймай!
І добра, што пажарная каманда падаспела,
А то б усё сяло згарэла!
Вось вам і жартачкі, як кажуць, цераз край...

## ЯЕЧНЯ НА ДАЛОНІ

Пасля вандровак дальніх, шматгадовых,
Вярнуўся сын у роднае сяло.
І перад Мацеркай старэнькай і сівагаловай
Схіліў сваё павіннае чало:
— Даруй мне, мама,
Што за столькі год
Я зрэдку дасылаў то ліст, то тэлеграму,
А часам дробны перавод.
Але цяпер гатоў аддаць табе я ўсё багацце:
Вось шаль персідская, кітайскі шоўк
На плацце,
І чаравічкі царскія, і золата мяшок!
— Дурны ты, любы мой сынок,—
Скрозь слёзы праказала Маці.—
Навошта мне багацце?
Вярнуўся ты дамоў здаровы, дзякуй богу,
І больш не трэба анічога.
Стаміўся ты. Паспі вось на маім плячы...

---

Ніякім скарбам з Маці нам не разлічыцца,
Мы даўжнікамі будзем век лічыцца,
Хоць на далоні ты яечню для яе спячы...
Яна на большыя гатова мукі і ахвяры,
Каб ад дзіця адвесці лёсу ўдары.

## «ПАСПАГАДАЎ»

Прыйшла жанчына
З магазіна,
Паставіла цяжкую торбу ў кут,
Прысела і за сэрца аж схапілася.
Мужык скрывіўся, нібы ад пакут:
— Бач, як ты прытамілася!
Навошта валачэш такі цяжар?
Была калісьці дужая, ды маладая...
Ну а цяпер жа сілачка не тая!
Не дай бог, здарыцца з табой удар...
Мне, дарагая,
Без цябе не жыць!
Я раю,
Каб не надрывацца,
Не раз,
А два разы ў сельмаг схадзіць,
Карысна ж па паветры прагуляцца.
— Ах, любы, дзякую за клопат, за спагаду,—
Сказала жонка мужыку.—
І слушную падаў параду.
Бяры авоську заўтра ты ў руку
І тупай паціхеньку ў краму,
Бо неабходны і табе шпацыр таксама.
— Ты звар'яцела! Колькі ні жыву,
Я гэтым не займаўся...—
Мужык спужаўся.—
Параіў на сваю, халера, галаву!..

---

На словах рыцары мы ўсе, вядома,
Аматары параіць і паспагадаць,
Калі ж кабета схоча некуды паслаць —
Нялёгка вытурыць нас з дому.

## ЧАРАПАХА І КУРЫЦА

Яечка знесла Курыца звычайнае, не залатое
І закудахтала на ўсё сяло:
— Зірніце на яго — вялікае яно якое!
Такога шчэ на свеце не было...
— Чаго ты раскрычалася? Чаго шуміш?
Яечка знесла — ці ж то дзіва? —
Прамовіў з дрэва Стрыж.—
Калі лятаў я над залівам,
Дык назіраў сапраўдны цуд:
Іх Чарапаха знесла больш дзесятка,
Вось гэна кладка!
Затым прысыпала пяском яечак груд
І паціху падалася да мора...
А ты крычыш!
— А як жа! Ці ж не разумееш, Стрыж,—
Чубатка пракудахтала з дакорам,—
Кладзе яечкі Чарапаха, можа, раз на год,
А я штодзень іх нараджаю,

І кожны раз пакуты я прымаю,
Каб потым вывесці свой малады прыплод.

---

Бліжэй свае і боль, і радасць, зразумела.
І Чарапаха б зараўла,
Каб голас мела,
Ды ёй яго прырода не дала.

## АКСІЁМА

Цяпер пра космас гутарку вядуць
Калгасніца, паэт і матэматык:
«А, можа, дзе ў якой з Галактык
Разумныя істоты, як і мы, жывуць?..»
Якраз на тэму гэту
Два друга разважаць распачалі:
— Надыдзе час і адшукаюць запаветную планету,
Дзе ёсць жыццё, як на Зямлі.—
Адзін прамовіў летуценна.—
Ды шчэ, напэўна,
Там і вышэй за нашую цывілізацыя —
Няма паноў і жабракоў,
Такая дасканалая грамадская фармацыя,
Саюз вучоных, творцаў, мастакоў!
Ні войнаў і ні беспрацоўя —
Жыві і радуйся, як кажуць, на здароўе!

— Ну-у, ты — фантаст! Табе б пісаць раманы...—
Скептычна друг падкалупнуў.—
А я табе, каханы,
Тут аксіёму прывяду адну:
Калі б такая існавала дзе планета,
Даўно б шаноўная мая кабета
Давала б звон!
Наводзіла б кантакты...
Ну, а з мяне за тэлефон
Касмічную спагналі б плату.

---

Хто правы з іх
У мроях, вывадах сваіх —
Адкажуць астраномы й касманаўты.

## ВОЛАТ І КАРЛІКІ

Калі? І дзе? — Скумекаць можна —
Два Карлікі спрачацца пачалі.
Прывольна жыць хацеў з іх кожны,
Ды ім штосьць цесна стала на зямлі...
Ад спрэчкі да абраз, да лаянкі шалёнай перайшлі,
А там і за чубы хапіліся!
Пускаюць з носу кроў, ды ставяць сінякі,
Так распаліліся —
Грызуцца люта, нібы пацукі,

Гатоў адзін другога зжыць са свету...
Ды ў момант гэты
Праходзіў тою стараною
Волат.
Заўважыў Карлікаў і прабасіў вясёла:
— Гэй, вераб'і! Што вы не падзялілі між сабою?
Зірніце навакол:
Якая на зямлі дзівосная раскоша!
Заліты сонцам горы, мора, дол,
Жыві і радуйся! Ці ж ёсць прычына для дэбошу?
— Ідзі, калі ідзеш...
І нос не пры куды не трэба.
Падзелім вось зямлю, падзелім неба,
Тады пабачым, што ты запяеш!..
— А-га-га-га! — Гігант заргатаў.—
Глабальная, відаць, у вас ідэя...
Ды я б сказаў,
Ад Пталамея
Яна асуджана спрадвеку на правал...
Акыш з дарогі!

---

Вось і фінал:
І фараоны, і цары, і дэмагогі
Спрадвеку войны між сабой вялі,
Каб панаваць над светам з Захаду да Ўсходу,
Але Народ змятае карлікаў каранаваных прэч з зямлі
І усталёўвае свабоду!

## САЛАВЕЙ І ВЕРАБ'І

На плёнку запісалі Салаўя.
Ды перш чым па эфіру перадаць канцэрт ягоны,
У студыю паклікалі для кансультацый Вераб'я.
Праслухаў знаўца спеў натхнёны
І даў «дабро», але параіў трэлі зняць!
Заўвага ўлічана і трэлі выразаны з плёнкі...
Тут і рэдактар Верабей узяўся чараваць,
Густ у яго быў, кажуць, тонкі.
Рашуча ён унёс
Свае таксама карэктывы —
Павыдзяўбаў усе дашчэнту пералівы
І Вераб'ю Галоўнаму на візу плёначку аднёс.
А той за справу браўся без ляноты
І правіць матар'ялы звык —
Шах-мах — і высек ён высокія хвалюючыя ноты.
...Панеслася ў эфір бадзёра: «Чык-чырык!»

---

Як кожны выправіць на свой капыл,
Глядзіш — пясняр без голасу, без крыл...

## СОН ПЕНСІЯНЕРА

Судзіў пенсіянера таварыскі суд.
Падсудны — дзед сівенькі
Прыклыпаў. паціхенечку з кавенькай

І сеў на лаву ў кут.
— Кузьміч,— прамовіў старшыня затурбавана,—
Заява на цябе даслана.
Сабаку ты забіў...
Дык раскажы выразна,
Падрабязна,
Навошта гэткае зрабіў?
Ты ветэран вайны і працы ветэран,
Дзяцей, унукаў маеш,
Ні п'яніца, ні хуліган
І раптам — фортэль выкідаеш!
— А што казаць? —
Дзядок азваўся вінавата.—
Сусед пракляты
Мяне каб даканаць,
Завёў у хаце ваўкадава,
Які і днём і паначы
Скуголіць, брэша і гырчыць,
То вые жудасна, то млява...
Згубіў я сон,
У рот не мог узяць і скваркі,
Фашысцкі трызніўся палон
І лютыя нямецкія аўчаркі...
Пакут такіх не вытрымаў я ўжо,
Бо стаў бы, мабыць, я вар'ятам:
Узяў ружжо,
Забіў сабаку. Вінаваты.
Бо трэ было
Мне пекануць суседа!

— Прачніся! Сонейка зайшло.—
Старая штурханула дзеда.—
Пайшлі дамоў, бо грымнеш з лавы...
Ізноў прысніў, напэўна, ваўкадава?
— Прысніў, халера!
Ён у пячонкі ўеўся мне —
Няма спакою, далібог, і ў сне...
Хоць ты з-за выжлы гэнага мяняй кватэру!

---

Каб яснага ясней было б,
Зраблю заўвагу:
Сабачы філантроп
Хай не ўзнімае звягу...
Калі ён ваўкадавам даражыць —
Няхай у будцы з ім і есць і спіць
І не перашкаджае людзям жыць.

## ЭСТЭТ І ПЧАЛА

Эстэт з паненкаю рабіў у лузе праменаж.
Ішоў і ўзнёсла захапляўся:
— Зірні, каханая, які вакол пейзаж!
А як жаўрук у небе расспяваўся!
А колькі кветак! Васількі,
Званочкі і рамонкі!
А водар казачны які!

І хмельны, і хвалючы, і тонкі...
І побач ты —
Узор лагоды, хараства і пекнаты!
І вусны твае пахнуць мёдам...
І кружаць галаву...
Ах-ах! Якая асалода!
Давай прысядзем на траву,
Нас у абдымкі кліча родная прырода!
Бач, конікі, стракозы, матылі
Вясельны баль спраўляюць...
Жывем для радасці мы на зямлі!
А пчолкі-працаўніцы нам мядок збіраюць.
І ўзрушаны Эстэт,
Сарваўшы квет,
Паднёс яго да носа задуменна...
Ды тут патурбаваная Пчала
Імгненна
Эстэта балбатлівага ў шчаку ўпякла!
— Ах, поскудзь, свалата, брыдота! —
Пчалу ён прыдушыў.—
Як погань гэтакую бог стварыў?!
А вось табе! А вось, мярзота! —
Яе ў зямлю ўтаптаў ён ботам.

---

Пчалу шкада!
Яна ад рання да цямна шчыруе,
І не даруе,

Калі якісьці блазан ці брыда
Нектар збіраць ёй замінае,
Яна ў ход джала, як кінжал, пускае.

## «СЯБРОЎСКАЯ» ХАРАКТАРЫСТЫКА

— Што думаеш пра Амяльяна?
Вы з ім, здаецца, землякі
І даўнія такія дружбакі! —
Спытаў Пятрок у Феафана.
— О! Амяльян — цудоўны хлопец!
Адкрытая душа!
І на рабоце ён шалопіць,
Нікога не падседзіць і ні ўтопіць,
Ён мне за спарыша.
Яму я ўсе «сакрэты» давяраю,
Я за яго гарой!
Бо ён сапраўдны сябра мой.
Праз колькі дзён Пятрок убачыў Амяльяна
І тое ж самае ў яго спытаў:
— Што думаеш пра Феафана?
Вы ж з ім, здаецца, землякі,
І, заўважаў —
Такія дружбакі!
— Хто? Феафан?!
Што ты, Пятрок, балбочаш?
Скажу без хітрыкаў у вочы,

Што ён цурбан
І недарэка!
Не назавеш яго прыстойным чалавекам...
Ён нешта натварыў?
Яго звальняюць?
— Ды не! Наадварот. Над намі павышаюць!
— Няўжо?! Забудзь, Пятрок, што я нагаварыў...
Бягу! Лячу! І з павышэннем сябра павітаю!

---

Падкрэсліць у маралі мушу:
Мне сустракаўся тып адзін,
Які цаніў амаль з пялюшак
У чалавеку толькі чын.

## УДОД-ФЯДОТ

Удод між птушак голасам не вызначаўся,
Але каторы год
Каля ляснога выдавецтва ціраўся,
Наводзячы на птаства пеўчае смурод.
Ён на рэцэнзіях практыкаваўся...
Яго дэвіз быў: «Калашмаць!
Дзяўбі і гадзь!»
Вядома, ён таксама разбіраўся:
На Пругана ці Пугача не накідаўся,
Тым болей на Арла!

Метода іншая тут у яго была —
Знаходзіў ён у іх і талент, і размах вакальны,
І глыбіню,
І тэмбр унікальны,
І меладычнасць, і выканання чысціню,
І, і, і, і...
...Але ж, калі траплялiся Сініцы,
Малінаўкі, Шпакі, Дразды ды Вераб'і,
Тым болей Салаўі —
Ён ім рабіў накаўты-бліцы,
Пад дыхла біў, клаў напавал,
Надзеі ўстаць, лятаць, спяваць не пакідаў ніякай...
Але рэдактару Граку, як кажуць, дзякуй!
Ён стрымліваў Удода шал
І выратоўваў небаракаў.

---

Ёсць рэцэнзент такі Фядот,
Ні з прозай, ні з паэзіяй не ладзіць.
І, як смярдзючы той Удод,
Імкнецца талентам нагадзіць...

## ХЛЕБ НАДЗЁННЫ

Прыехаў дзед да ўнука з вёскі,
Прывёз гасцінчык: сушаных грыбоў,
Антонавак, каўбаскі самаробскай

І пляшачку таго, што жывіць кроў...
Унук сустрэў дзядка лагодна:
— Хатуль стаўляй свой да сцяны,
Табе з дарогі, дзед, памыцца неабходна,
Каб стому скінуць са спіны.
Бялізна вось табе і тапкі, і халат.
Ідзі і мыйся. Я ж тым часам
Зірну на халасцяцкія прыпасы.
Жыву я па-паходнаму, нібы салдат,
Туды-сюды камандзіроўкі,
Гасцініцы, буфеты ды сталоўкі...
І вось, нарэшце, ўнук і дзед
Прыселі да стала. Ядуць. Вядуць размову.
Закончыўся абед.
Унук кавалкі хлеба згроб і выкінуў у смеццепровад.
Дзед вочы вылупіў. Ускочыў. Закрычаў:
— Куды дабро, паганец, выкідаеш?!
Ды гэна ж хлеб! Святыня самая святая!
А каб ты знаў —
У ім усё: і радасць наша і гора,
Ён бацька! Галава! Аснова ўсіх асноў!
А ты такое творыш...
— Ну-у, дзед, якую антымонію развёў! —
Сумеўся ўнук.—
Куды ж дзяваць кавалкі?
Калі б быў у мяне парсюк...
Хіба ж адзін выкідваю дабро на звалку?
У гэным гмаху ля трохсот кватэр,
А ў горадзе іх тысяч колькі?

Вось палічы цяпер...
Але не толькі
Надзённы хлеб ідзе ў адкіды.
А па рэспубліцы? А па краіне, калі ўзяць?
На глум мільёны, дзед, ляцяць!
А ты мне прачуханку выдаў...
— Няўжо ж у горадзе на галаву ўсе інваліды? —
Аж застагнаў жалобна дзед
Ад крыўды.—
А мо — перавярнуўся свет,
Калі да хлеба ўжо няма пашаны?..

---

Зняважыць хлеб — нанесці ў сэрца хлебароба рану.
Хлеб — скарб найдаражэйшы на зямлі!
Каштоўнасці спрадвек усе ім вымяраюцца,
За хлеб у бой ішлі,
Ён узнімае ў космас караблі,
За мір у свеце ён змагаецца!

## СМЕРЦЬ І ЯРЫЖКА

Смерць за Ярыжкаю прыйшла:
— Збірайся, дарагі, у дальнюю дарогу...
Я ледзь цябе знайшла,
Дзе ты блукаў, нябога?
Напэўна, весяліўся ад душы?

Віно піў, ды з жанчынамі грашыў...
Час і адказ даць богу!
— Ну, калі ласка! Калі трэба — я гатоў! —
Ярыжка праказаў бадзёра.—
Ды перад сконам дай жа мне ад гора
Гарэлкі глыкнуць некалькі глыткоў...
— Ну што ж? Апошняе жаданне — свята!
Глытні.
Ды толькі часу не цягні.
Бо я старая ўжо. А спраў яшчэ багата.
Іх паспрабуй у тэрмін правярні...
Ярыжка спрытна завінуўся:
Дзве шлянкі поўныя наліў,
За стол галантна Смерць старую запрасіў
І да яе з такімі словамі звярнуўся:
— На свеце колькі я не жыў,
Ніколі сам-насам не піў.
Дык мне кампанію састаўце, дарагая,
Давайце вып'ем мы на брудэршафт!
А там у рай ці ў пекла — гонар маю —
Гатовы да ўсяго і цела і душа!..
Смерць адмаўляць асуджанаму палічыла нетактоўным:
І, крывячыся жудасна, яна
Свой келіх поўны
Выпіла да дна!
І тут неверагоднае здарылася раптоўна:
Вачыма лыпнула, рукамі замахала,
Звалілася пад стол

І, уявіце! Смерць сканала!..
...Жыве Ярыжка! Ходзіць, як арол!

---

Закон
«Сухі» уводзь, або «вільготны» —
Ярыжка бессмяротны
З антычнасці да нашых дзён.

## ВОЛ І АСЁЛ

У полі Вол цалюткі дзень араў
І позна ўвечары вяртаўся стомлены дахаты,
І тут Асла знаёмага спаткаў,
Які каля хлява ляжаў,
Стагнаў,
На свет паглядваючы сумнавата.
— Ты што ляжыш, адкінуўшы свой хвост? —
Спытаўся Вол.— І нешта не ў гуморы...
Здаецца, што ў цябе не той узрост,
Каб паддавацца смутку й гору...
Ці ты чым хворы?
— Ты адгадаў. Апошні час,—
Асёл шырока пазяхнуў Валу ў адказ.—
Мяне апанавала нейкая лянота,
Не вабіць анішто
І асабліва цяжкая работа...

Апатыя, браток!
Што дапаможа тут? І хто?
Парай мне, дружа!
...Асла агледзеў Вол
І прамычаў: — Здаровы ты і дужы,
І сродак ёсць, Асёл,
Адзіны,
Каб выгнаць сплін:
Узяць дубец ці дрын,
Бакі табе пачухаць і хрыбціну!
Тады і з'явіцца ахвота
Да работы.

---

«Рэцэпт» Вала круты,
Занадта радыкальны,
Затое павучальны
Для розных гультаёў ад ленаты.

## КАМПЛІМЕНТ СА ШПІЛЬКАЙ

Адправіўшы мужоў на працу,
Суседкі дзве надумаліся прагуляцца.
Была вясна. На дрэвах паявіліся зялёныя лісткі.
Пах у паветры плыў мядовы.
Свяціла сонейка. Спявалі весела шпакі.

Быў і ў жанчын настрой вясновы!
Яны аблюбавалі ў парку маляўнічую мясцінку,
На лавачку прыселі, памаўчалі мо з хвілінку
І балбатаць ажыўлена распачалі:
Аб пральным парашку, надвор'і, модах,
Што цэны рыначныя падраслі
І на зарплату з кожным годам
Усё складаней весці гаспадарку...
— Твой хоць не п'е,
А мой перад абедам любіць чарку,
А гэна па бюджэту б'е!
— А мой па іншаму сваё здароўе губіць —
Пасля *абеду добрага* цыгарку выкурыць ён любіць.
— Ты кулінарка ўмелая! Я знаю...
І ўсім не навіна.
Ды мужыка твайго я прывітаю:
У год цыгарка нейкая адна —
Яго не даканае...

———

А мілы «апанент»
Без шпількі не падкіне камплімент.

**«ХАРОБРЫ» ВЕРАБЕЙ**

На дрэва Верабей раз узляцеў
І ўбачыўшы Ката, які драмаў на санцапёку,
Пачаў: — А каб ты адубеў!

А каб аслеп ты на два вокі,
Жываглот!
Даўно з табою разлічыцца варта.
Як зараз налячу, вазьму я ў абарот
Дык разарву на шматы!
Не вытрымаў нарэшце Кот:
— Што-што? Храбрэц куртаты...
А ну-тка, паўтары!
П'яны ты, мусіць?
Разбалбатаўся на гары...
Вось зараз да цябе я дабяруся!
Пабачым, як у кіпцюрах маіх ты запяеш.—
І ўміг на дрэве апынуўся.
Але ж
І Верабей быў начыку,
Яго бы ветрам здзьмула з вершаліны.

---

Блазнюк сядзіць дзесь на суку
І хваткай пахваляецца арлінай,
А шугані яго смялей —
Звычайны верабей.



## «ЯК ХУКНУ — ДЫК І КРАМА ЎСЯ ЗГАРЫЦЬ!..»

*(Па тэме Пятра Шасцерыкова)*

Было гэта даўно
Ў мястэчку,
Наяве, не ў кіно...
Якісьці селянін на кірмашы прадаў авечку.
Зайшоў у краму,
Каб купіць дахаты селядца.
Але не аказалася на той час прадаўца.
Ці адчыніць ён фурману адскочыў браму,
Ці выклікала жоначка ў бакоўку,
Каб крамніку намыліць ладненька галоўку,
Так ці не так — навоштачка гадаць?
Наш селянін пачаў тавары разглядаць:
Чаго там не было!
Алей, паркаль, гужы, замкі і абаранкі,
Цукеркі, дзёгаць, мёд, гарэлка і бляшанкі.
Але на грэх яго тут навяло
Штосьці чырвонае, бы ракі,
Небачаныя шчэ струкі...
І небараку
Нібы нячысцік спакусіў які:
Ён жменю хоп — ды у рот пасмакаваць,
Пачаў паспешліва жаваць.
А ў гэты момант крамнік заявіўся:
— Ну што, Кандрат, жадаеш ты купіць?
Кандрат маўчыць.

У роце ўсё яму пячэ, смыліць,
Кандрат скрывіўся,
Затым як закрычыць:
— Лепш адыдзі! Чаго ты прычапіўся?
А то як хукну — дык і крама ўся згарыць!

---

І хоць з прыгоды той Кандрат смяецца,
Але з тае пары не любіць перца.

## МАЎКЛІВАЯ РАЗМОВА

Ля тэлефоннай будкі закруцілася чарга
І не пасоўваецца ўперад ні на крок.
Якісьці дзядзька ўлез, схіліў галоўку ўбок,
Зняў трубку, дыск крутнуў, сказаў: «Ага!»
І змоўк.
Стаіць і носам, як п'яны, клюе,
Хусцінкай лоб свой выцірае.
А час ідзе. Народ на будку напірае.
У кожнага ёсць справы спешныя свае.
А гэты вось дзівак
Не размаўляе сам і іншым не дае...
Не вытрымаў адзін юнак
І, расчыніўшы дзверы,
Сказаў: — Грамадзянін, вы ж не ў кватэры!
Дамоў ідзіце спаць...

Трубку знялі — дык размаўляйце!
— Ах, выбачайце! —
Ачнуўся дзядзька.— З жонкай не дадуць паразмаўляць.
Звані мне, Муся, на работу,
Твае навіны я паслухаю ў ахвоту!

---

На тэлефоне лайдакі паўдня вісяць,
Балбочуць абы-што — абы не працаваць.

## ТРУХЛЯВЫ ДУБ

Ад лесу воддалі, на сонечнай паляне,
Задзёршы ўгору свой злыселы чуб,
Рос Дуб,
Замшэлы, як паданне...
Сябе ён волатам, асілкам уяўляў!
І сапраўды, у параўнанні з хмызам,
Які яго на полі акружаў,
Нібы чынушу самавітага падлізы,
Кантраст даволі быў прыкметны.
Але, калі на лес зірнуць,
У пушчы той дрымучай, запаветнай
Убачыць льга было і Клён, і Граб, Бярозу і Сасну,
Якія з воблакамі гаманілі,
І птушак і звяркоў
Ад сцюжы і вятроў

Зімой і летам баранілі.
А Дуб стаяў і разважаў пыхліва:
Я — выключэнне на зямлі!
Жыву пад сонейкам прывольна і шчасліва,
Мяне вятрыскі здужаць не змаглі,
Бо я — Гігант! Бо я — Тытан!
Карэннямі ўчапіўся моцна я за глебу!
...Ды пацямнела нечакана неба
І наляцеў аднекуль ураган,
І Дуб пад націскам стыхіі не ўтрымаўся —
Нібы саломіна, зламаўся,
Бо быў дуплясты і трухлявы ён...
Ды ці ж адзін у полі воін?
...А лес шуміць! Ён вытрымаў цыклон,
Бо стрэў навалу маналітнаю сцяною.

———

Няхай каму не люба:
Не кожны дуб, хто лічыць сябе дубам.

## ЖОНЧЫН НАКАЗ

Алесь сабраўся на рыбалку.
Гаршчэчак кашы спецыяльнай наварыў,
Алею і анісу прыхапіў,
Чарвей і матыля бляшанку,

Мармыжак, блёснаў цэлы груд,
Ды вуды, спінінг, гумавую лодку-надзіманку,
Сам цёпла апрануўся, што якут,
І харчу кошык,
І ўжо ступіў ён за парог,
Як жоначка сказала: — Памагай жа бог!
І сунула ў кішэнь Алесю грошы.
— Навошта мне яны? —
Алесь здзівіўся.—
Спакуса лішняя. Глядзі, каб я не пахмяліўся.
А што ўжо за рыбак п'яны?..
— Дурны! —
Сказала жонка рыбаку з дакорам.—
Ці зловіш ты яшчэ ці не,
Перад суседзямі каб не было нам сорам,
У краме шчупакоў ты купіш мне!
— Што ты вярзеш?! —
Алесь зрабіў пакрыўджаную міну.—
Ды на рыбалцы акадэмік я!
Ці бачылі такога дзе ж?
— Ну-ну! Не правядзеш
жанчыну...
Тваю ману
Даўно я разгадала.
А на рыбалку я цябе ахвотна выпраўляла,
Каб свежым ветрыкам дыхнуў,
З сябрамі
Змог пагаманіць.
Дык не забудзь мне шчупакоў купіць!

Мяркуйце самі:
Ёсць жоначкі, што ладзяць з мужыкамі.

## КАРАБЕЛЬ І ПРЫЛІПАЛЫ

Пад ветразямі поўнымі, узяўшы курс на сонца,
Ляцеў, бы птах, па акіяну Карабель!
Марская гладзь разлеглася бясконца,
І не было рызыкі наляцець на мель,
Бо глыбіня здавалася бяздоннай,
На мосціку — бывалы капітан,
Лагодна дыхаў Ціхі акіян,
Абдаючы матросаў пырскамі, імжой салёнай.
Ды нечакана Карабель з разгону
Натрапіў на густую чараду Рыб-Прыліпал:
— З табой мы, Карабель! Нам па дарозе...—
Узнялі яны гвалт.—
Мы дапаможам плыць! Адужаць шторм і шквал!
«Памочнічкі! — падумаў капітан тут у трывозе,—
Вунь судна ўжо дало асадку,
Прыцішыла свой ход.
Патрэбна з гэтага выпадку
Дабавіць ветразі, каб не спазніцца ў порт».

Заўважыць мушу:
А гэткіх прыліпал

Хапае і на сушы.
У іх эмоцыя, этнузіязм, запал,
І, калі хочаце, высокі ідэал!
На словах, а на справе —
І пальцам не жадаюць варухнуць,
Нішто ім не цікава,
Прылепяцца да судна і... плывуць.

## АНАЛОГІЯ

— Здароў, Данат! Вось дзіўная праява,—
Руку працягваючы, гаварыў Ігнат.—
Ледзь на цябе зірну — успамінаецца адразу Фартунат!
— Хі-хі-хі-хі! Ці-ка-ва! —
Данат заліўся смехам дробным.—
Я ж гэтак на яго падобны,
Як на вярблюда слон...
— Магчыма. Але, як ты, мне вінен грошы ён.

## ШПАКАВА ПРАБЛЕМА

Шпачок дазволу бацькі не спытаўся,
Вясной прывабную сяброўку напаткаў,
Ёй мадрыгалы праспяваў,

Ачараваў
І з любай распісаўся.
Спачатку Шпак стары на сына раззлаваўся,
Намерыўся праборку даць:
«Як смеў?! Навошта паспяшаўся?!
Не навучыўся шчэ, як след, лятаць...»
Але, зірнуўшы на нявестку слаўную,
Рашыў лепш памаўчаць.
Бо некалі ж і сам зялёны, малады
Прывёў у дом каханую
І крочыць з ёй суладна праз гады.
Вяселле шумнае згулялі,
Ды неўзабаве для старых
Праблемы нечаканыя паўсталі,
Ну, а галоўнейшая з іх —
Дзе будуць жыць маладажоны?
Бо ж у адным дупле
На дзве сям'і нямашака разгону.
Шпак абляцеў паспешна лес
Зялёны,
К аднаму стукнуўся, к другому — абяцанкі,
І ні дупла, і ні дуплянкі.
Дамоў вярнуўся ледзь жывы.
— А ты,— старая падказала,—
Звярніся да Савы.
Яна ж курыруе, здаецца, над вакалам
І абавязана паклапаціцца пра наш быт!
Шпак уздыхнуў: — Надзеі мала...
Але нанёс Саве візіт.

Сава адразу галавой адмоўна захістала:
— Я спачуваю. Ды зрабіць нічога не магу.
Тут не мая епархія.
Станьце на чаргу.
Парадак патрабуецца, а не анархія...
Нібы ашпараны ляцеў дахаты Шпак:
«Вось распякла, сівая радла!» —
У роспачы ён думаў так.
Ды тут пачуў бадзёры голас Дзятла:
— Суседзе, ад якіх ты спахмурнеў нягод?
Прызнайся шчыра.
— Жылля няма. Хоць зноў ляці ты ў вырай...
— Толькі ўсяго? Каб не было другіх турбот!
Бутэльку стаў бярозавага соку —
І будзеш жыць хоць нізка, хоць высока.
Ну як, мой дружа, згода?
Хоць не начальнік я, як той Крумкач,
Сава або Пугач,
Ды справу гэтакага роду
Я вырашаю з ходу!
Ляцім. Дупло табе шыкоўненькае пакажу.

---

У заключэнне я скажу:
Высокія парогі часам абіваеш,
Табе талдоняць пра субардынацыю, парадак і закон,
А сябра сустракаеш —
«Праблему» проста вырашае ён.

## «ЭКАНОМ»

Кантроль грамадскі прадаўца прыпёр да сценкі:
— Ты што, махляр, абважваеш народ?
У крамніка на лоб палезлі зрэнкі:
— Як можна?! Тут усё наадварот!
Я да народнага дабра аднošуся ашчадна:
Ну недаважу трыццаць-сорак грам,
Пакупніку гэна ж няўцям,
А для дзяржавы ў выніку прыбытак ладны!
— Ну-ну, лухту нам не мялі...
Дзяржаве непатрэбна «эканомія» такая.
Вось мы цябе спытаем:
Адкуль і дача, і машына «Жыгулі»?
Твая ж зарплата не ахці якая.
Глядзі. Апамятайся «эканом»,
Бо над табою грымне гром!



## СОМ І ШЧУПАК

Шчупак зубасты паміж рыбнай драбнаты —
Уклеек, Плотачак, Падлешчыкаў, Чырванапёрак —
Не ведаў клопатаў пустых,
Ні гора.
У завадзі рачной
Ён быў і бог, і цар, і ваявода.
Уладаю сваёй
Караў ці мілаваў усіх без перашкоды.
Ды неяк ён ад Ёршыка дазнаўся,
Што па рацэ ніжэй у яміне абаснаваўся
Вусаты Сом.
Што ля яго пакручваюць хвастом
Язі, Сазаны, Мянтузы, Міногі.
«А я чым горш? Час выбірацца са сваёй бярлогі! —
Разважыў зайздрасна Шчупак.—
Але пралезці ў світу Сома як?»
І да сябе каб выклікаць увагу
На ўсю раку
Узняў ён звягу:
— А ці ж не сорамна такому бугаю, здаравяку
Біць лынды, прыкідацца хворым,
Ляжаць, ніба калода на баку?
Ён сімулянт! Калі патрэбна плыць на форум —
Адразу ён здароў!
А справамі ракі заняцца —
Дык ён нядуж? За Сома след узяцца!
Спіхнуць яго далоў!

Да Сома хутка
Дайшла благая чутка:
«Чаго Шчупак шуміць? —
Устурбаваўся Сом.— Тут варта разабрацца.
Магу яму хваста я прышчаміць.
Ды толькі, пэўна, ускладніцца сітуацыя...
І што б тут ні казалі,
Дасягнем мэты метадам праверанымы, старым».
Сом Шчупака зрабіў намеснікам сваім.
Цяпер Шчупак той Сома хваліць,
А за спіною часам зубы скаліць...

---

Зірнеш на свет:
І людзі слаўныя вакол, чароўная прырода!
І хочацца з такой нагоды
Лірычны напісаць санет!
Ды прайдзісвет,
Як на бяду, трапляецца
І мімаволі байка нараджаецца.

## PERPETUUM MOBILE

Аднойчы вынаходнікі, умельцы-дылетанты,
Надумалі perpetuum mobile зрабіць,
Які беспаспяхова намагаліся адкрыць
Спрадвек пігмеі і гіганты,

Бо не маглі яны адолець тармажэнне,
Зямное прыцягненне
І захаванасці энергіі закон.
Ды гэта нашых «мудрацоў» не прыняло ў здранцвенне:
Яны з запалам маладым, з натхненнем
Кумекалі, майстрылі колькі дзён
І ў рэшце рэшт магічны рухавік зрабілі!
Сенсацыя на цэлы свет!
Аб цудзе рэпарцёры затрубілі!
Вучоныя сабраліся на экстранны савет!
Глядзяць, даследуюць — вось дзіва! —
Акамулятар дзе? Дзе паравік?
А круціцца няспынна рухавік!
І лямпачка гарыць нязгасна, зіхатліва!
Ці ж не загадка?
Ці ж не цуд?!
...Ды ўсё тлумачылася проста тут:
З лаўсана ў «вынаходнікаў» была апратка,
Яна накоплівала электрычнасці зарад,
А па індукцыі
Прымаў яе надзвычай чуйны апарат.
Ніякай не было тэхнічнай рэвалюцыі...

---

Жарт жартам. А сур'ёзна як казаць,
Спрадвечны рухавік не варта адкрываць.
Існуе ён з дня сатварэння Свету:
Імчацца, кружацца і зоркі і планеты,
Сузор'і гаснуць, зноў гараць —
Было і ёсць і будзе гэтак!

## СПРЫТНЫ АРАТЫ

Бамбіза Сілуян
Быў зроду ленаваты
І між сялян
Лічыўся лайдаком прыдуркаватым.
Жыў бабылём, не меў ніякай гаспадаркі,
Не сеяў, не араў,
Улетку ў горадзе дзесь прападаў,
К зіме вяртаўся і вяселлі ў бубен граў,
Прынадзіўся да чаркі.
Як ураджай сяляне свой збяруць,
Браў у суседа Сілуян мяхі, плуг і фурманку
І выпраўляўся на чужое поле зранку.
Ніхто не мог у крадзяжы бамбізу папракнуць,
Ён пераворваў бульбяное поле,
Пераціраў рукамі кожненькі грудок,
Дамоў парожні не вяртаўся ён ніколі,
Вёз бульбы не адзін мяшок.

———

Выпадкам «Выбранае» прагартаў
Гарластага паэта.
Хоць плагіятам і не назавеш выданне гэта,
Але чужое поле ён пераараў —
Ні ўласнай думкі, ні арыгінальнага сюжэта.

## БАРСУКОВЫ ГАЛЬШТУК

Мядзведзь калісьці ў маладосці
Запрошаны да Зубра быў у госці.
Мядзведзь хапіўся апранацца:
Ёсць замшавы пінжак і джынсавыя стыльныя штаны,
Гамашы, у якія можна заглядацца,
Кашуля асляпляльнай белізны,
А гальштука экстравагантнага — няма!
Ён да суседа — Барсука: — Такі выпадак,
Брат, выручай! Без шныпса заявіцца — непарадак.
Персон там, кажуць, будзе значных шмат:
Лось, і Алень, і нават Насарог,
Які прыехаў да Зубра з візітам.
Барсук Мядзведзю дапамог,
Даў модны гальштучак з свайго ён рэквізіта.
Мінула часу — о-го-го! — з тае пары,
Даўно Мядзведзь з ліхвой за гальштук разлічыўся:
Паставіў мёду тры вядры
І на дарункі шчодрыя не паскупіўся.
Але, калі сустрэнецца ён часам з Барсуком,
Яму заўсёды той шматзначна ўспамінае:
— Міхайла! Ты цяпер асоба не абы якая!
А памятаеш, га, як баляваў з Зубром?!
І гальштука не меў? І я яго табе пазычыў?!
Так паступае верны друг!
А ці не так? Як ты, шаноўны, лічыш?
— А каб ты стух! —
Мядзведзь аднойчы нават раззлаваўся.—

Табе я ўдзячны за дабро,
Але ж і меру знай. Стулі свой рот.
Я на бяду сваю з табой звязаўся.

---

Сапраўдную паслугу — нельга забываць.
Калі ж хто драбязу ў квадрат узводзіць,
Напомніць гэткаму не шкодзіць:
Дабро зрабіўшы, лепей памаўчаць.

## БОГ І ЦАЦКА ЛЁСУ...

Калісьці на зары жыцця далёкай і трывожнай
З'явіўся Чалавек на свет...
Ён быў слабы, бездапаможны,
Яго пакрыўдзіць мог звярына кожны,
А катаклізмы — смерці кволы след.
Але, як нам апавядае міф антычны,
На дапамогу Чалавеку ў момант той крытычны
Прыйшоў тытан магутны Праметэй.
Ён даў агонь, даў розум творчы і раскуты,
А сам дзеля людзей,
Асуджаны быў Зеўсам на спрадвечныя пакуты.
З тае пары стаў Чалавек сам Богам на зямлі:
Скарыў і горы ён, і акіяны,
І атама разведаў тайны,
У космас кінуў караблі!

Не сёння — заўтра і Сусвет яму скарыцца!
Магутны Чалавек і розумам ён можа ганарыцца!
Але... дагэтуль цацка лёсу:
Нікчэмны вірус, што нябачны ў мікраскоп,
Прышэлец з нейкае туманасці бялёсай,
Зямнога
Бога
Б'е напавал у лоб!
Страшней ён лазера, нейтронных бомб,
Бо супраць зброі ёсць і абарона,
Народаў воля тут за мір, як шчыт.
А вірус ракавы, бы той бандыт,
Знішчае на зямлі людзей мільёны.
Час аб'яднаць усіх вучоных
І аб'явіць татальную вайну
Рашуча раку!
За перамогу гэтую адну
Вучоным скажа чалавецтва — дзякуй!

## ДЭЛЬФІН-ЭРУДЫТ

Дэльфін у моры быў намеснікам Кіта
І ведаў ён пытаннямі культуры,
А ёю кіраваць не зможа дурань,
Ён розум меў і шмат чытаў,
Кумекаў у мастацтве і літаратуры,

Да падначаленных не прыдзіраўся
І творцаў заўсягды цаніў.
Але, калі на семінар народ збіраўся,
«Экзамен» ён таму-сяму ўчыніць любіў:
— Скажы мне, Камбала, ды толькі не мані,
Чытала кнігу ты «Стары і мора»?
— Не. Не чытала.— Не чытала? Сорам!
А я чытаў. Хэмінгуэй! Цудоўны раманіст!
Абавязкова раю!
А ты, Катран, куды ўцякаеш?
Ты Янкі Маўра «Сын вады» чытаў?
Ну што маўчыш, нібы вадзіцы ў рот набраўшы?
А ты...— Ды тут Дэльфіна перарваўшы,
Свой голас Краб падаў:
— А вы, Дэльфін шаноўны,
Чыталі твор «Марскі Індык»?
— А гэна што? Каго? — наш эрудыт бы прыкусіў язык.
— А я чытаў! Дарэчы твор цудоўны! —
Прамовіў пераможна Краб.—
І раю прачытаць таксама вам абавязкова!
— Дык аўтара мне падкажы хаця б...
— Дык гэна ж байка Міхалкова,
Яна вядома нават дзецям!
...З тае пары, колькі не жыў Дэльфін на свеце,
Сваёю эрудыцыяй не казыраў
Прад кожным,
Бо зразумеў, што «зрэзацца» самому можна.

---

Мне тэму калісь Глебка падказаў.

## НЕ КАЗАЧНЫ ЯН

Жыў
Быў
Не казачны — рэальны Ян...
Не напінаўся
І не выпінаўся,
Рабіў і носам не круціў, як пан,
Кампаніі сяброўскай не цураўся,
Звычайны быў, як кажуць, індывід.
Ды мільганула ў галаве ідэя:
«Ці ж недарэка я? Ці ж інвалід?
Што ўнізе кажанею?
Ці шлях мне ў сферы іншыя закрыт?»
І, праявіўшы пэўны спрыт,
Ён ажаніўся!
Вы скажаце: — Вось ідыёт!
Чаго ён жаніцьбой дабіўся?..
А не спяшайцеся! То быў тактычны ход:
Хоць трапілася пераспелая цыбуля,
Але магутнай шышкай быў яе татуля!
І неўзабаве там, праз колькі дзён,
Угору Яна, бы на ліфце, пацягнула!
Яму пасада, сакратарка, тэлефон...
Надзьмуўся ён адразу, быццам скула!
Былых таварышаў не заўважае,
Не падае руку...
А цесць спрыяе роднаму зяцьку —
За вушы цягне, ззаду падпіхае!

А Ян, чым узнімаецца вышэй,
Тым больш старых сяброў губляе.
Нарэшце ён адзін застаўся...
І хоць бразготкамі, нібы калядная яліна абчапляўся,
Няма з кім ад душы пагаманіць,
Апрыкла ўсё на свеце...
А тут цыбуля з хрэнам пачала фінціць,
Ды «ўсемагутнага» турнулі цесця,
А заадно неспадзявана
З гары спусцілі і самога Яна...
І ён забедаваў!
І не па жонцы, не па страчанай пасадзе,
А па сябрах, якіх паганьбаваў,
З якімі дружбы болей не наладзіць.

---

Ян ці Аўдзей —
Якая розніца? Імя тут для прыліку...
Калі заслужана начальнік ты вялікі —
Будзь чалавекам. Паважай людзей.

## ЛІСА І ЗАЯЦ

Ліса схапіла і намерылася з'есці Зайца,
Ды, каб законнасць акцыі надаць,
Пачала гнеўна даўгавухага публічна распякаць:
— Ах, ліхадзей! Табе ад кары не схавацца!

Асінку ты пагрыз? Тым дрэва загубіў!
Не ўздумай адпірацца!
— Пагрыз. Бо я галодны быў...
Але асіна ад таго не ўсохла, не завяла,
Ёй хоць бы хны...
— Ты кажаш — «не завяла»? А можа, ёй пашанцавала?
А колькі пакалечыш іх яшчэ ты да вясны?
За гэта з'ем цябе! І справядліва будзе!
— Ты Зайца надта строга судзіш.—
Прахрукаў Дзік.—
Калі Мядзведзь задзёр Ласіху,
Не абуралася ты, не ўзнімала крык,
А, падтуліўшы хвост, сядзела ціха,
Нібы й не бачыла разбою...
— Эге! — крутнулася Ліса.—
Спрачацца не хачу з табою,
Рахункі зводзь з Мядзведзем сам!
Дый некалі. Прагаладалася я надта.
Лепш Зайца з'ем...

---

Аналагічнае здараецца і ў НАТА,
Дзе гаспадарыць дзядзька Сэм.



## КАСА І КАМЕНЬ

Імя яго — Мірон, яе — Любоў!
Іх прозвішча — Ласкавыя!
На Ціхай вуліцы жывуць, трымаюць галубоў,
Адукаваныя абодва, з выгляду цікавыя.
Яна працуе ў магазіне «Мір»,
Ён — у гасцініцы пад назвай «Дружба».
Заробкам задаволены і службай,
Гарэліцы не п'юць, а п'юць кефір...
Здаецца, жыць павінны ў згодзе?
А паміж імі што ні дзень — вайна!..
Хто вінаваты: ён? яна?
Хто? І каго? Чаму? За што? — заводзіць.—
Не разбярэцца сам і сатана!
Суседзі ахкаюць, разводзяць здзіўлена рукамі:
— Відаць, найшла каса на камень...

## ГАСПАДАР І БУЛЬДОГ

Бульдог з кватэры выйшаў. Пацягнуўся.
На павадок узяў Гаспадара:
— Пайшлі, старэча! Прагуляць цябе пара!
У хаце седзячы, ты тлушчам зацягнуўся...
Спачатку прабяжым трушком,
А потым — на галёп пяройдзем!

Магчыма ў краме «радасці сабачай» знойдзем,
А не — дык пачастую я цябе цукровым маслаком!
Бяжыць Бульдог. За цюцькам крок у крок
І Гаспадар на ланцужку спяшае...
Бульдог прыпыніцца. Абнюхвае слупок.
І гаспадар нагу ўзнімае...
Закончаны нарэшце абаюдны мацыён,
Са смакам Гаспадар глытае лівер,
Бульдогу ў вочы прагна пазірае ён,
З мальбой, аддана і лісліва...

---

Калі малюнак гэткі назіраеш —
Дык прыкра робіцца за небараку,
Бо аніяк не разгадаеш:
Хто гаспадар, а хто сабака?



## ДЭГУСТАЦЫЯ

Экскурсія прыйшла на мясакамбінат:
Дзядзькі мажныя, здаравілы,
Такія б упрыгожылі любы чэмпіянат,
Дзе багатырская патрэбна сіла!
Ідуць яны памалу з цэха ў цэх,
Дзівуюцца, як робяцца вяндліна і каўбасы,
А апетыт, між іншым, распаліўся не на смех,
Пакаштаваць тых вырабаў быў кожны ласы.
І тут, дырэктарша, жанчына маладая,
Нібыта разгадаўшы іх намер,
Усіх у кабінет свой запрашае:
— Прадэгустыруем, таварышы, прадукцыю цяпер!
Прашу вас да стала.
А там — не закусь — казка!
І кумпячок, і паляндвічка, і сялянская каўбаска!
Аж слінка з рота пацякла...
А да таго ж, накроен лустачкамі хлеб,
Ну, а галоўнае, што спадабалася мужчынам —
Стаялі з вадкасцю празрыстаю графіны,
Не для акрасы ж, а напэўна, для патрэб?!
— Пачнём! — скамандавала маладзіца.
Кілішак наліла. Глытнула раз-другі.
Куснула хлеб. Смакуе паляндвіцу.—
Ну-ну! Смялей!
Цікава водгук чуць гасцей мне дарагіх!
І дзядзька тут адзін дзябёлы
З графіна шклянку поўную наліў,

Вачыма бліскануў гарэзліва, вясёла
І — хвацка ў рот перакуліў!
Хвіліну ён стаяў аслупянелы,
Затым скрывіўся, пабялеў, пачырванеў,
Зірнуў на ўсіх, як звар'яцелы,
Рукамі замахаў, захроп і замычэў...
— На, закусі. Не еў ты зранку.—
Каля героя завіхаліся сябры.—
А вунь, спірцягі гахнуў шклянку,
Яшчэ загнешся без пары...
— Ды адчапіцеся! Апека не патрэбна.—
Нарэшце голас здаравяк падаў.—
Нас падманулі ўсіх ганебна:
Не спірт ў пузырках — вада!
І знікла ў тых дзядзькоў жаданне
Прысмакі каштаваць.
Паўскоквалі, параіўшы на развітанне
Малодцы іншых дэгустатараў шукаць.

## ПЕВЕНЬ І ГУСАК

Ну, як жывеш? — у Пеўня запытаў Гусак.
— Жыву, як парадыст-мастак,
Не выглядаю недарэкаю:
На іншых смецце з-пад сябе грабу,
Слабых бязлітасна дзяўбу,
А дужым — оды кукарэкаю!

## МЕХ І ТОРБА

*(Па тэме Рыгора Яўсеева)*

На вёсцы гоман, спевы, смех —
Вяселле гулкае ў разгары!
На Торбе ажаніўся Мех,
Дарункі шчодрыя для маладое пары:
Бацькі нявесты жаніху прэзентавалі «Жыгулі»,
А жаніха радня нявесце — дачу.
І сваякі па тысячы рублёў далі
Ды мэблю імпартную, каляровы тэлік у прыдачу,
Кароўку, свінку, ды гусей —
Жывіце дружна і працуйце дбала!
Вам шчасця ў хату і здаровенькіх дзяцей!
Каб радасць вас не пакідала!
...Вяселле адгуло, вяселле адшугала,
Патрэбна за работу брацца маладым,
Бо што ні дзень — выдаткі...
А Мех і ў вус не дзьме, а Торба плешча ў ладкі!
Пакуль нястача невядома ім:
Гусей паелі, свінку дажавалі,
Кароўку на кірмаш вядуць...
Салодка п'юць і смачненька ядуць!
Глядзіш — і з дачкай,
З «Жыгулёнкам» цырымоніцца не сталі...
(Яны ж дабро гарбом не нажывалі?..)
Ізноўку грошы ёсць кутнуць!
Ды надышла пара, калі спусцела ў хаце —

Няма чаго і ўзяць на зуб...
Тут Мех сказаў, пачухаўшы свой чуб:
— Каціся, Торба, прэч! Да маці!
Навошта мне жабрачка?

---

Мы падагулім так:
Калі гультайка жонка, муж — лайдак —
Ім не пражыць на шчодранькіх падачках.

## КОТ І ЖАБА

Кот стронгу з ручая хадзіў лавіць,
Ды штосьці шанцавала слаба,
Ніводнай рыбкі кіпцюром не змог ён падчапіць,
Як тут, на беразе, прыкмеціў Жабу:
«Што за дзівосы? Мыш не Мыш.—
Падумаў Кот.— Вось як схаплю за скабы,
Дык запішчыш!»
І — цоп Жабоцьку спрытна!
Але адразу выпусціў і галавой затрос,
Запэцкаў сліззю вусы, нос
І есці Жабу стала брыдка і агідна.
А Жаба скок ды скок
Тым часам,
Ужо гатова прыхавацца пад кусток.
Ды Кот, хоць есці быў яе не ласы,

Не меў намеру выпускаць спажыву.
Ён сігануў імкліва
І лапаю яе прыціснуў да зямлі.
Адскочыў. Мяўкнуў. Хвосцікам вільнуў гулліва.
Зноў наляцеў і Жабу дагары перакуліў.
Так граўся з ёю з паўгадзіны,
Ды ў рэшце рэшт усё-ткі — прыдушыў...
І, кінуўшы ў кустах ахвяру,
Пабег дамоў мышэй лавіць.

---

Я ведаю такога скнару:
Не хоча з лап сваіх і непатрэбшчыну ўпусціць,
А з бліжняга гатовы скуру ён злупіць.

## ЭСКУЛАП І КАБЕТА

— Што за ўрачы цяпер пайшлі? —
Дзядулі жалілася сухарлявая Кабета.—
Не дай бог, занядужалі, зляглі —
Яны не вылечаць, зжывуць са свету...
Наскоча маласольны эскулап, зналопу гляне на язык,
Ні дыягнозу вернага, ні лекаў,
Паспешна бюлетэньчык
Чык!
За шапку — хоп! І ў дзверы! І начхаць на чалавека.
Свой «план» ён мусіць гнаць!

Няма ў яго на ўвагу часу...
А ты павінны сам гадаць,
Лячыцца самапасам...
Вось некалі быў доктар — самавіты чалавек!
Не то што нейкая фіцюлька:
Пенснэ! Гадзіннік залаты! Бірулька!
Цыліндр! Футра! Стэк!
Лагодна павітаецца. Спакойна распранецца.
Памые рукі з мылам і пахукае на іх, патрэ,
Каб цёплымі былі, калі да цела дакранецца.
Нацягне накрухмалены халат, берэт —
Тады за справу ён бярэцца:
Паставіць градуснік. Палічыць пульс.
Пра апетыт спытае.
Абстукае. Абслухае ўсю з галавы да пят.
Падкіне камплімент ці жарт.
Здароўя пажадае —
Адразу робіцца лягчэй!
А зараз? Стук ды грук — абы хутчэй...
— Балбочаш абы-што, а сутнасці не знаеш! —
Махнуў рукою дзед стары.—
Ці шышка ты якая?
Калі б сядзела на гары,
Ды целам гладкая была, прывабная і маладая,
Дык мацалі б цябе ахвотна дахтары...

---

Сучасная на ўзроўні медыцына
І многа ёсць выдатных дактароў,

Але... дзесь мае рацыю жанчына:
Няўвага сустракаецца часінай,
Калі дажыў ты да старых гадоў...

## МЯДЗВЕДЗЬ І БАРСУК

Заняць салідную пасаду —
Даўно ўжо марыў фанабэрлівы Барсук!
Але ўскараскацца на дрэва, на высокі сук
Сам ён не мог даць рады.
А тут Мядзведзь ідзе!
Куды? Чаго? І сам, бадай, не знае...
Барсук з паклонам: — Мішанька, дапамажы ў бядзе:
На сук хачу. А спрыту ўласнага не маю.
На дрэва падсадзі!
— Давай. Караскайся. Але глядзі!
З вярхушкі не зваліся...—
Мядзведзь лагодна прабурчаў.—
Ды Рысі
Сцеражыся!
Ускінуў Барсука на сук і прэч пашыбаваў.
Сядзіць Барсук на дрэве. Ганарліва пазірае.
Сябе паважнаю асобай уяўляе!
Дзень адышоў, мінула ноч,
Тут кішкі марш зайгралі...
Барсук паесці быў ахвоч
І ён паеў бы, каб яду яму прапанавалі.

Уніз ён паглядзеў,
Зайцы непадалёку цераз пень скакалі.
— Гэй, касавокія! Я згаладаўся, задубеў,
Мне паднясіце хуценька паесці!
— Што-што? Няма ўжо ў лесе халуёў,
Саскоч уніз і пазбірай грыбоў...
— Ды не магу я злезці,
Бо шчэ мой сук займуць...
— А нам якая справа?
Сядзі. Сук сцеражы. Магчыма есці паднясуць.
На дурняў глянуць будзе нам цікава!
Але нядоўга прасядзеў Барсук:
Прыціснуў голад не на жарты,
І запаветны сук
Пакінуў ён. Рвануўся да нары, дахаты...
Але калі нажэрся ўсмак —
Ізноў на дубе новы сук нагледзеў.
Ды асядлаць яго не можа аніяк —
Няма паблажлівага ўжо Мядзведзя...

---

Вось так.

## ДВА КАПІТАНЫ

Дзе капітаны два — няма там ладу.
У штыль — туды-сюды. А наляціць як ураган? —

Адзін патрэбен капітан!
Інакш загіне карабель і бравая каманда...

---

Рыбацкая шаланда
Лавіць кефаль у мора адплыла.
А ў шкіпера старога жонка маладзенькая была,
Яе на беразе пакінуць шкіпер пабаяўся:
Ці ж мала мічманаў ліхіх,
Ахвотнікаў да баб чужых?
І сам каля спадніц каліось ён завіхаўся,
Быў зух
І на навінку ласы.
Ну, а цяпер, як той пастух,
Пільнуе жонку, каб не джмыхнула ў пампасы...
І вось на мосціку ён і яна!
Плыве шаланда. Ветрык павявае.
Каманды шкіпер аддае, а жонка падпраўляе —
Камедыя адна!
Чые выконваць тут загады?
А вецер пасвяжэў, ператварыўся ў шквал,
На судна хлынулі вады каскады.
Мацней узяўся шкіпер за штурвал
І жонка за стырно ўчапілася.
Ён круціць у адзін бок, а яна — ў другі,
Шаланда бы руля пазбылася,
Зігзагі вырабляе і кругі,
Яе панесла на берагавыя скалы...

...Бяда, калі
На караблі
Два капітаны ля штурвала...

## ГАРА І БАРБОС

Барбоса сонейка прыгрэла
І пад Гарою ён салодка задрамаў...
Прыснілася сабаку, зразумела,
Што бог маслак яму паслаў.
У сне ён грыз яго, аблізваўся з імпэтам,
Аж слінка з пысы клейкая плыла,
Ды ў момант гэты
Тут яму на нос
Назола-муха села.
Як чмыхне наш Барбос!
На ногі ўскочыў, закруціўся ашалела
І забрахаў ад злосці на Гару!
А Рэха брэх той ціха паўтарыла...
— Гара вялікая, але не мае сілы,
Прамармытала штосьць, а што — не разбяру...—
Барбос ашчэрыўся.— Вазьму яе і раздзяру!
Каб сонца мне не засланяла...
— Што ты сказаў? — тут прагрымеў Пярун.
— Што ты сказаў? — услед Гара прагрукатала.

Барбос адразу хвост падцяў
І — драпу!

---

Умей абсекчы, здачы даць арапу,
Каб абы-што ён, як сабака, не брахаў.



## ВУСАТЫ ДУДАР

На вёску да бацькоў улетку
Прыехаў з горада сынок.
Хоць мілы сэрцу родны ўсім куток,
Наведваў ён яго даволі рэдка,
А больш гастраляваў дзесь за мяжою
З ансамблем галасістым «Дудары».
І вось гасцюе. Рады сырадою.
Рыбачыць. Ды збірае рыжыкі ў бары.
Спіць соладка на сенавале.

Спаборнічае з пеўнем ранкам у вакале —
Зайздросны адпачынак, што ні гавары!
Але аднойчы бацька асцярожна
Сынку прапанаваў:
— А можа б, ты касу на золку ўзяў,
Размяўся б крыху на лужку мурожным?
— Не-е, любы продак мой,—
Дудар спаважненька пагладзіў ву́сы.—
Мяне не вабіць гэткая спакуса...
Адвык я ўжо махаць касой!
Ці ж таленту займацца чорнаю работай?
— Ах ты, смаркач! Блазнота!
Адросціў ву́сы і задраў свой лыч...
Мо не мужык ты, а паніч?
Што грэбуеш сялянскай працай,
Даеш адразу лататы
Ў кусты...
І ад бацькоў гатовы адцурацца.

---

А сутнасць байкі ў тым:
Май ву́сы, падвывай з эстрады
І талентам сябе лічы,
Але на працу не глядзі з пагардай,
Без розуму — дык памаўчы.

## МЯДЗВЕДЗЕВА ДЗЯЛЬБА

У лесе прэміі звяры дзялілі.
Утвораны быў спецыяльны Камітэт.
На крэсла старшыні — Мядзведзя пасадзілі,
Бо званне ж у яго, пасада і аўтарытэт.
І хоць ён летам дугі гне і спіць зімою,
У пушчы лічыцца ўсё роўна за гаспадара,
Бо вызначаецца і кемнасцю і сілаю сваёю
І часам на Лася наскоквае і нават на Зубра!
На прэміі — кандыдатур багата:
Крот-землякоп і будаўнік-Бабёр,
Лань-балярына, Заяц — спрынтэр зухаваты,
Вавёрка — гаспадарлівасці ўзор!
І Вожык — вораг розных гадаў...
І кожны шанц з іх і надзею меў,
Бо часам іх пахвальваў Леў
І спадзяваліся, што ў Камітэце разбяруцца ладам.
Але Мядзведзь зрабіў, як захацеў:
Адну даў прэмію свайму намесніку — Ваўку,
Другую сваяку —
Шакалу,
А трэцюю — Лісе, якая ля яго хвастом матляла.

---

Ці ж задаволіш талаку?
Ці ж ад сябе дзяўбе матыка?
Ці ж не свая рука ўладыка?
Ці ж дужацца з асілкам слабаку?

## ПАЛЬМА ПЕРШЫНСТВА

Спатрэбіўся ў кантору экспедытар.
Аб'яву праз газету адпаведную далі.
Але заместа аднаго наймацца тры прыйшлі!
Як быць? Задумаўся начальнік самавіты.
Але які сапраўдны кіраўнік
Не знойдзе вернага рашэння?
Ніколі ён не трапіць у тупік.
І, выклікаўшы сакратарку да сябе ў імгненне,
Ён загадаў: — Даю я экстраннае даручэнне:
Дастаць тры экземпляры «Аганька»
І хуценька сюды, алюрам!
Шэф не паспеў цыгаркі выкурыць да муштука,
Як сакратарка ўжо ляціць віхурай:
— Вось вам часопісы, Іван Пятровіч!
— Ну, дзякую. Ідзі.
А зараз,— кіраўнік нахмурыў бровы,—
Мы паглядзім,
Хто з вас, таварышы, красворды як рашае!
Вось вам у рукі «Аганёк»,
Бярыце кожны алавòк,
Гадзіна — тэрмін. Час я засякаю.
Сядзіць «суддзя», ды на гадзіннік паглядае.
У акулярах тлусценькі мазгляк,
Нібы камп'ютэр, клеткі запаўняе!
Дый лысенькі ўвайшоў у смак,
У крук скруціўся,
Красвордам гэтак захапіўся,

Што для яго нічогачкі ўжо не існуе на зямлі.
Вось толькі трэці, малады, доўгавалосы,
Узяўся ды, напэўна, веды падвялі,
Адклаў часопіс, пазірае скоса.
Нарэшце надышла пара і правяраць заданне.
Начальнік на работу лысага і мазгляка зірнуў
І ў вочы ім адразу рэзануў:
— Цудоўна! Ясна! І няма пытанняў.
Але скажу на развітанне —
Мне неабходзен экспедытар,
Каб мог з аддачай працаваць,
І непатрэбны эрудыты,
Што на красворды будуць час губляць.

---

Начальнік ставіў сам рэкорды,
Рашаючы красворды
І пальму першынства не думаў уступаць.

## БЕГЕМОТ І «ІНШЫЯ»...

Праводзілася ў заапарку справаздача,
Быў не благі мінулы год,
Але ўставалі новыя задачы:
Як эфектыўней, якасней узняць прыплод?
Даклад, які Мартышкі склалі,

З трыбуны прачытаў з уздымам Бегемот:
— Выдатна працавалі,—
З націскам падкрэсліў ён,—
Леў, Насарог і Слон!
Ну і, вядома,— іншыя...
Прычым, дакладчык збавіў на актаву тон,
Нібыта «іншыя» былі амаль што лішнія...
Тут Заяц храбрасці набраўся
І з месца рэпліку падаў услых:
— Штогод у памянальніцы паказваюць адных!
А ці ж другі хто не стараўся?
Мядзведзь, прынамсі, альбо Лось,
Ды і астатніх лепта ёсць у дасягненнях заапарка!
Недапрацоўка ў справаздачы штось...

---

Ды чуў я вось,
Што Зайцу «за язык» далі па карку.

## СТАРАЯ ПЛАСЦІНКА

На жонку муж чапляў усіх сабак:
— Распусніца! Табе ўсё гульбы...
А ў хаце — кавардак!
Зварыць не ўмееш простай бульбы
І мне штаны адпрасаваць!
Бязладная! Ва ўсім ты спадзяешся на мамусю...

Цярпенне лопнула! Пайду і развядуся!
Ты грошы можаш толькі марнаваць...
— Кінь горла, Авер'яне, драць,
Паслухай лепш мяне хвілінку,—
Сказаў сусед.— Ужо каторы год
Пракручваеш старую ты пласцінку,
Скандаліш, мелеш пра развод...
Калі жывеш з кабетаю сваёю —
Пракручваеш старую ты пласцінку,
Жанчыну не віні,
А на сябе зірні:
Не гаспадар ты — валацуга!
Працуеш тыдзень, тыдзень лынды б'еш,
Гарэліцу бязбожна п'еш...
Табе даўно патрэбна добрая папруга!

---

Калі п'янчужка сам заўзяты,
Дык хіба жонка вінавата?

### БАЗЫЛЬ І МУРКА

Базыль, ангорскі Кот,
Загадваў прадуктовай базай
І не першы год.

Вёў справы акуратна. І ні разу
Рэвізія, якая базу часта правярала,
Ні лішкаў, ні нястач не выяўляла,
Усё сыходзілася цот у цот!
— Не можа быць! Лаўчыць, махлюе спрытна Кот...—
Спрактыкаваныя казалі рэвізоры.
Ды факт — ёсць факт.
І, падпісаўшы акт,
Здзіўляліся, што не знайшлі аферы...
Ды Базыля
Ужо бяда падсцерагала:
Убачыў Мурку неяк ён здаля,
Яна за комінам кранальна так спявала,
Так красамоўна жмурылася і пакручвала хвастом,
Прывабна выгінала спіну,
Што завалодала Катом
За нейкую хвіліну!
Цяпер Базыль, калі спяшае на спатканне,
Дык тулячыся ад дапытлівых вачэй,
Каханцы скрутак ладны валачэ.
А што ні дзень — усё мацней каханне!
Не тоячыся ўжо крадзе Базыль,
Глядзіш, купіў аўтамабіль,
З каханкай едзе ў Сочы!
А Мурка чарнабурку набыла,
На Мурцы золата бразгоча.
...Але на базу зноў рэвізія прыйшла
І выявіла гэткую «усушку» і «утруску»,
Што Базылёк сеў у кутузку!

---

Пазнаеце вы Мурку і за мілю:
У футрах, золаце, размаляваны рот.
Яна шыкуе, бо цягае Кот,
Пакуль хваста яму не прышчамілі...

## ЦЫРУЛЬНІК І ПШУТ

Стары цырульнік, ветэран,
Інструктаваў зялёненькага практыканта:
— Асноўнае ў рабоце нашай — план,
Трымаць высока марку камбіната!
Ты, перш чым приступіць да працы,
Старанна брытву навастры,
Правер пульвелізатар, столік прыбяры,
Умей кліенту міла пасміхацца,
А «чаявыя» як даюць — бяры!
Бо на зарплаце нам — не разгуляцца...
Ну, час за справу брацца.
— Ды я...— замяўся практыкант,—
Прызнацца мушу:
Баюся штось... Дрыжыць рука...
Яшчэ абрэжу нос кліенту альбо вушы...
— Ну-ну! Смялей, хлапчо! Не панікуй!
Нам шкодна хвалявацца...
Намыліў морду — і шуруй!
Не адсячы, галоўнае, сабе ты пальца.

---

Так і ў паэзіі ўсялякі пшут
Бярэ сціло, дзяўбе «вырліберны»...
І вуха рэжа і траўміруе душу
Шурум-бурум дробнакаліберны.

## ТЫГР І ШАКАЛ

Шакал ля Тыгра аціраўся,
Яму стараўся
Прыслужыць.
І, калі харчу сам не мог дзе раздабыць,—
Тады аб'едкамі са смакам ласаваўся,
Якія Тыгр часам пакідаў.
І Паласатаму Шакал напэўна нечым спадабаўся,
Бо неяк ён яго паслаў
У лес суседні,
Каб той тыгрыныя «парадкі» там устанавіў...
— Ды не шкадуй старых, ні малалетніх,
Душы, грызі, ірві!
Табе загадам
Я паўнамоцтвы неабмежаваныя даю!
Ну, і Шакал, дарваўшыся да ўлады,
Драпежную натуру паказаў сваю:
Сагнаў звяроў у гурт, абнёс калючай агароджай,
А шыі хто не гнуў,

Хто спадылба глядзеў варожа,—
Галовы тым звярнуў
Або адправіў Тыгру на сняданак.
Але звяры не вытрымалі здзекаў прышлага тырана,
Рэжым крывавы выклікаў усеагульны гнеў!
Шакал і цяўкнуць не паспеў,
Як разарваны быў на шматы...
І апякун той Паласаты
Са страху лезці ў джунглі не пасмеў...

---

Дыктатарам, паслугачам, наймітам капіталу,
Рэжым якіх трымаецца на гвалце, на штыках,
Напору не суняць людскога шквалу,
Народ змяце іх і развее прах!

## ЗМІКІЦІЎ!

*(З народнага)*

Дасціпнаму кіраўніку,
Які быў да рэформ ахвочы,
Сказалі раз у вочы,
Што «у каровы малако — на языку...»
— Эгэ! — Ён аж падскочыў.—
Дык вось чаму надой на ферме нізкі —

Даяркі шморгаюць кароў за сіські,
А метад састарэў такі...
І загадаў: — Даіць за языкі!

---

Анекдатычны факт, кур'ёзны,
Аб ім мы гутаркі б, бадай, і не вялі,
Каб выпадкі такія не былі
І ў справах больш сур'ёзных.

## ПІЛА І ТАПОР

Тапор,
Які характарам сталёвым вызначаўся,
Якога кожны корч баяўся,
Патрапіў у суседні бор.
Пілу сустрэў там і шалёна закахаўся!
— Якая гнуткая! Бліскучая якая!
Як меладычна ты спяваеш!
А зубкі? — Дзіва!
Я за табой гатовы хоць на край зямлі...
— Няўжо? — Піла крутнулася гулліва.—
Навошта так далёка? Ды лепш у загс пайшлі
І станем жыць шчасліва.
Са шлюбам віншавалі іх і Гэблік і Свярдзёлак,
Лапата і дзюбаты Лом:
— Хай поўнай чашай будзе ваш заўсёды дом!

А сын народзіцца — анёлак!
Было нямала пажаданняў шчырых за сталом...
Але жыццё — складана:
Піла, хоць і прыгожаю была,
Ды нораў склочны праявіла нечакана —
Над Тапаром адразу верх свой узяла,
Штодзённа пілавала, пілавала
І ў рэшце рэшт яна
Яго і даканала!

---

Гісторыя банальная. Ды тут дэталь адна:
Піла ад слёз пакрылася іржою,
Бо пілаваць няма каго — жыве ўдавою.

## ФІЛАСОФСКІ КАМЕНЬ

Цыбаты Певень кучу разграбаў,
Яна, нібы курган, за свірнам узвышалася,
Нямала акадэмікаў там калупалася
І кожны камень філасофскі свой шукаў,
Але знайсці яго нікому не ўдавалася.
А Пеўню блазнаватаму пашанцавала:
Капнуў ён раз, другі
І ў смецці нештачка заззяла,
Прыгледзеўся — каменьчык дарагі!
— Ур-ра! — Ён загалёкаў.

Я філасофскі камень адшукаў!
Тут абступілі Пеўня птушкі хатнія навокал,
Не давяраючы на вока,
Знаходку кожны лапай шкроб і дзюбаю дзяўбаў,
Дэбаты разгарэліся, кіпучая палеміка,
Ды, каб абы-чаго не плесці,
Аснову каб фундаментальную падвесці,
Паклікалі славутых акадэмікаў.
І вось з'явіліся
Індык надзьмуты і нахмураны Гусак,
Абследвалі каменьчык так і сяк,
Але іх думкі падзяліліся!
Гіпотэзу сваю з іх кожны вернай ліча...
Ўзняліся гоман, лопат, мітусня!
Пачула вэрхал і прыйшла Свіння:
Што ў вас тут за гульня?
І камень спрэчны той ізноў зарыла лычам.

---

А часам «навуковыя» дэбаты
Смеху варты...



## ПІСК КАРАНТЫША

— Няма сатыры! — піскнуў Карантыш.—
Дый зубы скаліць у наш час — ганебна...
Вакол героіка, куды ні паглядзіш!
Харалы, дыфірамбы, оды нам патрэбны!
Карантышу наступны дам адказ:
— Уславіць працу — гімны неабходны.
А выкрываць хапуг, чынуш, пралаз —
Дык і сатыры залп не шкодны!

## СЛАНОВЫ МАСАЖ

Вярблюд
Убачыў Лань і занудзіўся:
— Ці ж не абсурд,
Што я няўклюдай гэткім нарадзіўся?
Яна, вунь, далікатная, малая,
Але якая зграбная, прыгожая якая!
Ёй захапляюцца, узносяць да нябёс!
А за грахі якія богам я пракляты?
Па іншаму мой склаўся б лёс,
Каб вырадкам не быў гарбатым...
— На сёння, дарагі,— Шакал заўважыў хітравата,—
«Праблемы» тут няма ж...
Звярніся да Слана. Табе без цяганіны
Ён зробіць сілавы масаж.

Гарбы ўбярэ, разгладзіць спіну
І станеш ты прыгажуном!
— Няўжо?! — І... да Слана бягом!
— Паслухай, чараўнік насаты,
Ты, кажуць, можаш «цуд» стварыць...
Дык пастарайся ўжо, каб я не быў гарбаты,
Рабі масаж, як мае быць.
Слон сілу меў, яшчэ прыклаў старанне:
І хобатам прайшоўся па гарбах як след —
Ад іх не засталося анізвання
І хруснуў напалам хрыбет.
Так дзеля пекнаты,
Вярблюд адкінуў капыты...
Ну а Шакалу быў шыкоўненькі абед!

---

Ты
Не ад кожнага прымай «парады»,
Бо і нашкодзіць нехта рады.

## БОКАМ ВЫЛЕЗЛІ ПАЦЕШКІ

На вёсцы жыў дзяцюк.
Калі што і рабіў — дык пад прынукай.
А возьмецца — дык валіцца ўсё з рук...
Затое класны быў манюка!
Так збрэша, так салжэ,
Такую выдумае небыліцу,

Што й байкару такое не прысніцца...
Народ рагоча навакол, іржэ!
Барон Мюнхаўзен пазайздросціў бы, напэўна,
І рот раскрыў бы ў захапленні Хлестакоў,
Пачуўшы, як дзяцюк узнёсла, летуценна
Неверагоднае і вокам не міргнуўшы плёў!
І асабліва навічок
Трапляўся на кручок,
Развешваў вушы, успрымаў лухту за чыстую манету.
Вяскоўцы расшалопілі яго даўно,
За жарт прымалі балбатанне гэта.
Ды неўзабаве атрымалася адно
Здарэнне:
Гарачы выдаўся дзянёк,
На полі працавалі мужыкі з натхненнем,
Каб не прапаў ніводзін каласок.
Як раптам прыляцеў ілгун і, нібы ў ачмурэнні,
Загаласіў:
— Пажар! Гарыць мая хаціна!
Бацян суседскі падпаліў!
— Ха-ха! — скептычна хмыкнулі мужчыны.—
Сягоння недарэчы жартачкі і кпіны,
Уборка ж у разгары,
А ты нам мелеш аб пажары...
...Ніхто манюку слухаць не схацеў,
А дом ягоны сапраўды гарэў!
Пакуль схапіліся — дык датлявалі галавешкі.

---

Так бокам вылезлі пацешкі.

## КОНЬ І КЛЕШЧ

Каню пад хвост упіўся Клешч.
«Ну, думае, Каняку даканаю!
Кусну разок-другі — адразу прападзеш...
Што-што, а тут я вопыт маю!»
А Конь як бег праз лес так і пабег,
Хвастом крутнуўшы на хаду з імпэтам.

---

З кляшчом хоць параўноўваць крытыкана грэх,
Ды вось учэпіцца ў паэта,
Мяркуючы стрымаць ягоны творчы рост...
А вынік? Што каня куснуць пад хвост!

## У НОСЕ «МУХІ»...

На пенсію выходзіў ветэран.
Папрацаваў ён шмат, папрацаваў нядблага,
Яму і гонар і павага!
Быў сціплы чалавек, не рвач, не гарлапан,
Вясёлы, шчыры, з чулаю душою.
І мужыкі, параіўшыся між сабою,
Рашылі так:
Пакуль там афіцыйныя пачнуцца віншаванні,
Узяць гарэліцы, кумпяк
І выказаць таварышу ад сэрца пажаданні.
Заварушылася кампанія рупліва

Адзін толькі «дзеяч» пыхлівы
Застаўся нештачка ўбаку:
— Я,— заявіў ён ганарліва,—
На сваім вяку
Пашану аддаю заўсёды каньяку!
Мой страўнік дрэні не прымае...
— Кінь! Не мані!
Ніхто з цябе рубля не вымагае...
Сядай. І чарачку кульні.
У чалавека ж — свята!
Дый «Белавежская» не горай за каньяк.
І разбяжымся хуценька па хатах.
І... здаўся небарак:
Прысеў і шклянку — хоп!

---

У жмінды — ніякіх хвароб,
Ён можа выжлукціць вядро сівухі!
Але хітрыць, бо ў носе «мухі»...

**МІЗАНТРОП**

Не спадзяецца хай на дапамогу
Той, хто нікому сам не дапамог...

---

Жыў-пажываў Цімох —
Ні чорту качарга, ні свечка богу.

Заўсёды стараніўся грамады,
Ніколі не любіў нікога,
А цешыўся з чужой бяды.
Яму ў жыцці, дарэчы, шанцавала:
Каму няшчасце ў двор,
Ягоны — ліха абмінала.
Спярша Цімоха і начальства паважала
І ставіла заўсёды ў прыклад як узор.
І сапраўды быў спрытны ён служака:
Шальмуючы сяброў,
Ён поўз угору, як вужака.
Хоць наламае часам дроў —
Спагнанне іншаму, яму ўзвышэнне і падзяка.
Суседзі для яго — не людзі, а ваўкі,
Ні ў госці сам, ні да сябе не запрашае...
Не падае службоўцу простаму рукі,
На стрэчных скоса пазіраe.
Але раптоўна павярнулася Фартуна да яго спіной:
Пайшлі няўдачы чарадою —
Ён разышоўся з жонкаю сваёю,
З пасады шухнулі яго паганаю мятлой,
Ды шчэ за цёмныя аферы
І аддалі пад суд.
Цімох туды-сюды — нідзе няма апоры —
Ні жонкі, ні сяброў — адзін, як прут!
Не блізкі лёг яму маршрут...

---

Магчыма пойдзе на карысць Цімоху гора,
Бо чалавек — не клоп.
Але, прызнацца,— кволая надзея,
Што «прасвятлее»
Мізантроп.

## ДВАЙНЫ МАТ

Да жонкі саслужыўца
Унадзіўся начальнік заглядаць.
Любіў ён, бачыце, у шахматы гуляць!
Ну, і напарніца была таксама хвацкая майстрыца...
Збяруцца вечарком
І ставяць маты...
А саслужывец у камандзіроўцы часцяком
Або балансам гадавым заняты.
Ды неяк, калі шахматны быў у апагеі марафон,
Раптоўна бзынкнуў тэлефон.
Ад нечаканасці начальнік аж падскочыў!
Пачаў паспешна апранацца ён.
— Чаго пералякаўся? Гэна ж мой Антон.
Званіў, што вернецца дзесь апаўночы...
Працягнем. Ход, здаецца, твой?
І ведаеш, што ён паведамляе?
У шахматы ўжо сёмы кон распачынае...
І з кім? — падумай! — З жонкаю тваёй!

— Што-што?! — начальнік ірвануў у дзверы.—
Вось дзе халера!
Вось дзе гад!
Пакуль я завіхаўся ля яго цяцеры,
Дык ён маёй вароне ставіць мат...
Вось шэльма! Не зявае!

---

Заканамернасць ёсць такая:
Калі крадзеш ты, хват,
Дык і цябе хто-небудзь абкрадае.

## САСНА І КАРАЕД

У лесе хвойным узвышалася Сасна,
Не год, не два з вятрамі гаманіла!
І мроіла яна,
Што на зямлі няма злавеснай сілы,
Якая ёй укараціла б век...
Але аднекуль Караед ля дрэва паявіўся,
Карэнне грыз, тачыў Сасне на здзек.
Нарэшце ён свайго дабіўся:
Сасна, што падпірала неба,
Карэннямі ўжо не трымалася за глебу,
А вецер дзьмухнуў — бразнула на мох...

---

Так злыдзень точыць чалавека,
І, далібог,
Калі ты размазня і недарэка,
Дык ён цябе, вядома, даканае...
Але на дужым — зубы абламае!



## НЕПІТУШЧЫ ВЕРАБЕЙ

Кандыдатуру апрабоўвалі ў капэлу.
Па ўсіх «параметрах» падходзіў Салавей:
І стаж салідны, і спявак умелы,
І голас меладычней чымся ў іншых і званчэй!
Адна «загана» (старшыні журы шапнулі) —
Што Салавей нібыта чарыцу бярэ...
І гэтага было ўжо дастаткова для Зязюлі:
— Кандыдатура — дрэнь!
Спявак такі ў капэле — ненадзейны...
Зацягне сола, а фінал ці давядзе?
Капэла ж — не дуэт сямейны...

Канцэрт сарве — дык быць бядзе!
...І, каб наогул не рызыкаваць,—
Не сталі чуткі правяраць,
А прынялі рашэнне залатое:
Па-першае, як кіне Салавейка піць —
Тады яго ў капэлу залічыць.
А па-другое,—
Аформіць у салісты Вераб'я!
Цвярозы ён, спрадвеку непітушчы,
Узорная яго сям'я,
Жыве ў падстрэшшы, не ірвецца ў пушчы,
Не фанабэрысты, заўсёдачкі ў гуморы,
І, хоць ён не хапае з неба зорак,
Але ж упэўнена выводзіць «чык-чырык!».
І вось Зязюля, старшыня журы,
На Вераб'і свой выбар прыпыніла.

---

Якая тут мараль? Да розуму бяры:
Зязюля не мастацтва, свой спакой цаніла.

### СЛОН І МАРТЫШКІ

У заасад вялі Слана.
Была зіма. Ільдзістая дарога.
Слон пакаўзнууся. Падвярнулася нага адна,
І грымнуў на зямлю нябога.

Пад'ёмны кран прыйшлося выклікаць,
Платформу спецыяльную і аварыйную брыгаду,
Каб волата падняць,
Адтранспартыраваць да заасада.
Уважліва агледзіў пацярпеўшага ветэрынар,
Зрабіў рэнтгенаўскі адразу здымак,
Пілюлю даў, каб знізіць жар,
А заадно і боль суняць, магчыма.
На лапу спрытна налажыў ён гіпс
І, працэдуру скончыўшы, сказаў ласкава:
— Ну, дарагі,
Як пойдзе ладам справа,
Праз месяц-два ты будзеш, Слон, здароў!
...Што гаманіць? Няшчасны выпадак. Бывае.
І хвораму хто не паспачувае?
Ды злыдні ёсць і між звяроў:
Мартышкі распусцілі плёткі,
Нібыта Слон нагу зламаў п'яны...
І ўвачавідкі бачылі яны,
Як ахмурэлы ён скакаў ля Бегемоткі,
Ды, зачапіўшыся за пень, зрабіў кульбіт.
— Як толькі галаву ён не раструшчыў?
Шалее паразіт
Ад тлушчу!..
І пакараў яго шчэ мала бог...
— Суйміцеся! — прамовіў Насарог
У абурэнні.—
Я сам быў сведкаю здарэння,
Спачатку да канца — усё паклёп, мана!

І я вам, малпы, не дазволю
Ашальмаваць Слана!

---

А злыдзень рад на рану сыпнуць соллю.

## ЛЕЎ І ЛІСА

*(З курдскага фальклору)*

Аднойчы да Ільва прыйшла Ліса.
Дагодліва хвастом пушыстым заматляла:
— О, валадар магутны! Ты звяроў і гонар і краса!
Мудрэйшы з мудрацоў, якіх на свеце мала!
Я б'ю табе чалом
І паслужыць сонцападобнаму заўсёды буду рада!
Узрушыла Ільва хвалебная тырада
І адказаў ён, ляснуўшы хвастом:
— На верных слугах нашая трымаецца ўся ўлада,
Цябе на службу я бяру!
А зараз час ісці на паляванне,
Звярыну на абед якую задзяру,
Дык будзе і табе тут частаванне.
...Наперадзе Ліса імчыць,
Нібы здабычу выглядае,
А следам Леў сігае,

Гатовы кожнага, хто трапіцца, забіць.
А Лісанька тым часам да скалістага абрыву падбягае,
Спынілася. Задумалася. Уздыхае.
Леў
Павярнуць назад хацеў,
Але ў Лісы пытае:
— Чаго ты? Ці бяда наведала якая?
— Ды вось успомніла твайго я тату:
Які адважны быў і спрытны звер!
Кідаўся ў бездань са скалы ён зухавата
І — вер не вер —
Адтуль прыносіў ладную здабычу!
— Мяне ты, можа, баязліўцам лічыш? —
Леў ганарыста грывай страсянуў.—
Ды я не з гэткай скокну кручы! —
І, разагнаўшыся з абрыву,— сігануў!
— Нарэшце шыю ты сабе звярнуў.—
Ліса прамовіла і кінулася ў лес дрымучы,
Звярам вясціну радасную несучы,
Што здох тыран!

---

Дык улічы,
Цурбан,
Што Розум Сілу здолее перамагчы!

## ФІЛОСАФ І АСЁЛ

Філосаф на Асле падаўся ў горы.
Ён ісціну шукаў...
І, каб у цішыні памысліць, кінуў шумны горад
І да вяршынь высокіх шлях свой скіраваў.
Ён ехаў на Асле і ўголас разважаў:
— Вось там, на вышыні, на адзіноце,
Калі акіну позіркам зямны прасцяг,
Адкрыецца мне сэнс жыцця
У тым вірлівым, без канца кругазвароце!
Ды неўзабаве ўбачыўшы альпійскія лугі,
Асёл спыніўся і сказаў гаспадару рашуча:
— Філосаф дарагі,
Не трэба мне вяршынь бліскучых,
Бо я стаміўся, ледзь жывы...
А тут, вунь колькі сакавітае травы!
І ёсць вада, звініць ручай!
А вунь, чабан пасе свае атары,
Паветра чыстае і сонца не скрываюць хмары,
Ды тут сапраўдны рай!
Аб гэтакай раскошы нават я не марыў!
— Што ты балбочаш? Я спыняцца не магу.
Бляюць авечкі. Ды пастух на дудцы грае.
Мне думаць шум перашкаджае.
Ты з імі заставайся на лугу,
А я туды! Вышэй! На самы стромкі пік!
...Пайшоў і назаўсёды знік...
Знайшоў ён ісціну ці не — загадка.

А што з Аслом? Жыве!
Ён да авечага прыбіўся статка.
Скубе траву. Ні думак, ні праблем у галаве.

---

Скажу без алегорыі, адкрыта:
Не кожны здолен ісціну шукаць,
Тым больш, вяршыні горныя скараць,
Катораму — абы карыта.

## «АНАЛІТЫК»

Дырэктарам бюро (ці ж мала іх у нас!)
Рабіў калісь Хамула.
Яго да чарачкі ў той час
Штодня цягнула.
Ды заключаўся парадокс у тым,
Што па натуры быў ён жмот і скнара,
Ірваўся пахмяліцца ледзь не шкіпінарам
На дармаўшчыну, на чужым.
А патрусіць свае кішэні
Ён не рашаўся аніяк!
— Якія могуць у мяне быць накапленні?
Ад роду я бядняк! —
Казаў ён басавіта.—
Хапае ледзь на хлеб і на ваду...
А братка! А налі ты!

Так мутарна, здаецца, прападу...
Хамулу налівалі
І прыкусіць давалі,
Але за выраз «А налі ты!»
Мянушку трапную далі —
Цыбаты аналітык!
А ён меў ладны ў Астрашыцах шмат зямлі,
Сад пладаносны, пчолак,
Казу і парсючкоў,
На рынак везучы на «Волзе» разнасолы,
Здаволена казаў: — Жыву, дык будзь здароў!
Кватэра ў Мінску, ды на вёсцы хутар,
З гародчыку ўсё, натуральнае, сваё,
За бэлькай грошай пругкі скрутак —
Жыццё цудоўнае маё!
Ці ж за мянушкі рвацца ў спрэчку?
Хоць назаві мяне гаршком,
Але не стаў у печку...

---

Знаёмы быў з цыбатым я дзялком:
Ён аціраўся то ў кафэ, то ў бары,
Прыкідваўся на людзях жабраком,
А калупні, вазьмі за карак —
Падпольны мільянер!
Вось «аналітыкам» і вер...

## РЭДАКТАР, КРЫТЫК І БАЙКАР

Крытык *(з'едліва)*. Смалі, Байкар, смялей!
Бяры за бараду самога бога!
Рэдактар *(строга)*. Не слухай падбухторшчыка старога,
Будзь разумней:
Парадуй лепей одай ці баладай!
Байкар *(збянтэжана)*. Патрапіў я, як верабей,
Паміж кавадлам і кувалдай...
Крытык. Дык што? У лес
Палез —
Не бойся воўка,
Не для сатырыка перастрахоўка...
Байкар. Ад тузанняў у галаве ўжо стрэс.
Як лясну пра «дарадцаў» байку злую!
Рэдактар. Ну-ну! Але падумай, што пляцеш...
Ці я яе шчэ надрукую?

---

Мараль: А пугаю абух не пераб'еш.

## ТРЫМАЙЦЕ ЗЛОДЗЕЯ!..

*(З Івана Батрака)*

Калі над горадам туман вячэрні лёг,
Між мітусні людской і штурханіны,
Здабычу Злодзей падсцярог
І лапу запусціў Рабочаму ў штаніну.
«Прапалі грошыкі!» — спалохаўся бядак,
Ды тут жа з духам ён сабраўся —
На Злодзея абрушыў свой мазолісты кулак!
Ды моцна так,
Што той з жыццём амаль не развітаўся.
І Злодзей сцяміў, што не на таго нарваўся,
Што шкуру ўласную патрэбна ратаваць!
І ён пачаў крычаць:
— Трымайце злодзея! Ага, папаўся абірала!
А сам у сумятні даў драла...

---

Прыём стары! Але дагэтуль на ўзбраенні ён
Капіталістаў нашых дзён.

## АБ КУРЫНАЙ СЛЕПАЦЕ

*(З Самуіла Маршака)*

— Навошта гэны здратавалі луг
Ад краю і да краю? —
Кабылка іржанула маладая,
Капытам ляснуўшы бліскучы плуг.—
Да ворыва тут красавалі:
Рамонкі, дзяцеліна, васількі,
Над кветкамі чароўныя лунаі
Матылькі!
А зараз, калі луг дзівосны зааралі,
Вунь, чорныя над ім закаркалі гракі...
— Смех, далібог, і гора,—
Загагаталі Гусі.— Дурань земляроб!
Кідае зерне, гэткае дабро,
Бяздумненька ў зямлю без жалю, без разбору...
...Зазелянела дружна рунь,
А неўзабаве стала каласіцца.
— Жыву! — Мыш піскнула.— Я не памру,
Бо будзе чым мне пажывіцца!
...А час уборкі як настаў —
Камбайн прайшоўся ўмела,
Да каліва ўраджай сабраў
І поле апусцела...
— Як пажывеш, ды паглядзіш —
На свеце толку мала.—
У норцы палявая Мыш

Гаротна развражала.
...Адвезлі збожжа да млына
І на муку змалолі.
Карысць і радасць тут адна
Таму, рабіў хто ў полі.
— Што гаспадар наш натварыў?!
Ён — ідыёт! Ён — дурань!
Ён зерне ў пыл ператварыў...—
Кудахталі абураныя Куры.

———

Як ні старайся, поспехаў якіх ні дасягні,
Цябе асудзяць абармоты,
На справу паглядзеўшы з вышыні
Курынага палёту.

## НЕПРЫГОДНАЯ МАШЫНА

*(З Сяргея Міхалкова)*

На чорным рынку прадавалі
Стары аўтамабіль.
І вы б, бадай, не прагадалі,
Калі б, зірнуўшы на яго, сказалі:
«Даўно час гэткае ламачча здаць ва ўтыль!»
Парушана сістэма кіравання,
Заклінены намёртва руль,

Прыборы на шчытку паказваюць заўсёды нуль,
Ніякага рэагавання!
Згарэлы рухавік, сарванае счапленне,
Ды кузаў згрызла ўшчэнт іржа.
І толькі ўсіх прыводзіла ў здзіўленне —
Як дацягнулі гэты хлам на рынак з гаража?
Ды выгляд знешні зманліў быў «тавара»,
Адразу ўсіх заган не выдаваў,
Бо асляпляльна зіхацелі фары
І гучнасцю сігнал шум рынка заглушаў...
— Тут на паўтышчы з гакам толькі зваркі! —
Машыну ацаніў аўтамабільны спец.
— Але ж яна — амерыканскай маркі! —
Усклікнуў ганарыста прадавец.
Спец усміхнуўся: — Што ж, не супярэчу.
Хай ведаюць амерыканскія тузы:
На ЗША падобны лімузінчык нечым —
І руль заклінены і не трымаюць тармазы!..

## УГОДНІКІ

*(З Паўла Багданава)*

Штосьці дворнікава Шаўка
З налёту на мяне ўзялася гаўкаць.
З чаго ж бы гэта? Ёй ніколі
Пад хвост я не насыпаў солі...

За ёй і дворнік, стары пёс,
Аблаяў злосна, як Барбос.
Прыйшоў на службу — там швейцар
Вурчыць, бы нейкі Сенбернар.
І сакратарка — цяў ды цяў...
Намеснік гыркае, што Валкадаў!
У чым жа справа?
Вось цікава!
Ды проста — Дог — мой шэф, патрон,
Апошніх пару дзён
Не жартам на мяне ўзлаваны быў:
Яму «на хвост» я наступіў.
А Догу дагадзіць яны жадалі,
Таму і на мяне брахалі.

## ЦЫТАТЫ

*(З Міхася Ільіна)*

Дакладчык свой даклад,
Каб «не загнуць», «не памыліцца»,
Змог умудрыцца
Падрыхтаваць з адных цытат.
Іх на вяхотку нанізаў —
Ды і ў лекцыйны зал!

---

Чытач, мараль сказаць дазволь:
Цытата для даклада — соль!
Але, калі праўдзівым быць,—
Дык лёгка й тут перасаліць...

## РАЦЫЯНАЛЬНЕЙШАЕ ЗЕРНЕ

*(З Эміля Кроткага)*

Два мудрацы спрачаліся заўзята,
На старадаўні спасылаючыся манускрыпт,
Што ім даўно адкрыт
Сэнс ісціны, для ўсіх што свята.
Кляліся і хапаліся загрудкі,
Выпендрываўся кожны, нібы фанфарон.
А трэці думаў: — Дудкі!
Я ведаю адзін жыцця закон:
Рацыянальных не шукаючы зярнятак,
Папрацаваў я зухавата
І звёз на элеватар
Пшанічкі сотню тон!

---

А ісціна адна:
Яе ніхто, ніколі не абвергне —
Пшаніца ёсць! Ну, а яна —
Рацыянальнейшае зерне!

## «СМЯЛЬЧАК»

*(З Уладзіміра Маса і Міхася Чэрвінскага)*

Паўлюк Цяцерын
Прамову так пачаў сваю:
— Больш да Ягора Хаміча няма даверу!
І дыфірамбаў, як раней, яму я не спяю...
Хай лопнуць мае бельмы —
Ірвач, махляр ён і двудушны шэльма!
І справы творчыя ўсе глушыць ён...
Яго не літаваць, судзіць сурова!
Ён князь удзельны! Фараон!
У вотчыну ператварыў дзяржаўную ўстанову,
Дзе кар'ерыстам, лісунам разгон,
А талентам з народу —
Няма ходу...
Паўлюк сек згарача,
Як пракурор казаў, у бойку рваўся!
Адкуль запал і пафас толькі браўся?
— Ну і смяльчак! —
Той-сёй за ґалаву хапаўся.—
Адкуль адвага? Што за цуд?!
А ўсё тлумачылася проста тут:
Кантроль народны
Ягора Хаміча за скабы ўзяў,
А нехта хлёсткі фельетон надрукаваў,
І спёкся кіраўнік няздольны...
Пранюхаўшы аб тым здарэнні,

Цяцерын і пачаў сячы з пляча,
У абурэнні,
Ганьбуючы Ягора Хаміча.

---

А сустракаецца «ваяка» бойкі,
Што лезе ў бойку... пасля бойкі.



### КАРШУК-ПЕРАСТРАХОЎШЧЫК

*(З Міколы Гудоўскага)*

У дзверы грукнуўшы мацней,
Прынёс элегію ў рэдакцыю мясцовы Салавей.
Каршук-рэдактар песню ўзяў
Зірнуў і так сказаў:
— Упэўнены, што са сталіцы прыляцелі!
Бо толькі там спяваюць хвацка салаўі!

Ну, а тутэйшыя, што плодзяцца ў гаі,
Пішчаць, ні посвісту, ні трэлі...
Так-так! Які размах, узлёт і хватка!
Паэзія, мелодыя ў адным ключы!
Такое, братка,
Толькі маэстру па плячы!
...Хвалебныя пачуўшы словы,
Падскочыўшы, прамовіў Салавей:
— А я — ей-ей! —
Мясцовы!
Што стала з Каршуком?! Перамяніўся ён,
Начубіўся, ды бліснуў злосна вокам,
Закаркаў: — Што я блазан, маладзён?!
Вы кпіць уздумалі? Дык вылезе вам бокам:
Не са сталіцы — дык тады
Дарэмна заявіліся сюды.
Я песенькі змяшчаць гатоў,
Але... славутых толькі салаўёў!
Ну, а мясцовыя хай спевакі
Пасвістваюць у лесе, ля ракі...

---

Перастрахоўшчык гэтак разважае:
«Навошта мне рызыкаваць?
Лепш бездар знакамітую надрукаваць
І бесклапотна спаць,
Тубылец шчэ і дровы наламае...»

## ДРОЗД-ПАДХАЛІМ

*(З Рыгора Панцюшэнкі)*

Прызначылі надоечы Дразда
Дырэктарам «Будрэмгнязда».
Сказаць па праўдзе — не вялікая пасада,
Ды як заважнічаў адразу Дрозд!
Угору дзюбу, распушыў свой хвост,
У позірку пагарда!
На сук усцібіўся, не заўважае анікога:
Ні Дзятла, ні Чыжа,
Ні Вераб'я старога...
Ды тут аднекуль — жах —
Начальнік з упраўлення, Шпак з'явіўся!
Што нарабілася з Драздом:
Ён на зямлю скуліўся,
Ён заскакаў, залебязіў перад Шпаком,
Адразу ростам стаў ніжэй,
У голасе спалох і млосць,
Задыхаў ён часцей
І толькі чулася: — Ёсць! Ёсць!

---

Няцяжка разгадаць сакрэт
З каго напісаны партрэт.

## НЕПАДКУПНЫ ЛЕЎ

*(З Ігната Бяляева)*

У канцылярыі ільвінай
Гусак пісарчуком звычайным працаваў
І разам з іншымі на імяніны
Запрошаны быў да Ільва.
Сядзеў пад фікусам у шэфа ён свайго,
Цягнуў патроху і пакрэкваў: — О-го-го!
Бянтэжыўся, бо да асоб паважных не прывык.
А як жа! Вунь кампанія якая:
Асёл,
Казёл,
Мядзведзь ды Бык,
І Ліска на яго лагодна пазірае...
А побач Воўк сядзіць!
Гулянка падыходзіла ўжо да фіналу,
Ды вось бяда — з закускай тугавата стала...
Няёмка. Што рабіць?
Ноч на дварэ. Зачынены ўсе нават рэстараны.
А госці падпілі і прагнуць закусіць!
І тут Гусак, з вялікай да Ільва пашаны,
Дагодліва прад ім прыгнуўшы шыю,
З трымценнем праказаў: — Ах, госці дарагія!
Дзеля ўрачыстасці такой,
Гатоў я і ахвяраваць сабой...
Леў з-за стала прыўстаў з лянотай,
Акінуў Гусака паглядам злым,

А потым,
Як раўкне: — Ах ты, падхалім!
Пр-рр-рэч! Каб не бачыў я цябе, мярзота!
...Гусак за дзверы паляцеў,
А Леў,
Утаймаваўшы гнеў,
Падумаў сам сабе з хітрынай:
«Што лапы пэцкаць мне аб Гусака?
Калі спраўляць па-царску імяніны,
Дык трэба браць — быка!»

## МАЎКЛІВЫ І БАЛБАТУН

*(З Пятра Гулак-Арцямоўскага)*

Маўклівага сустрэў заўзяты Балбатун
І наваліўся на яго з разгону:
— Ты ўсё маўчыш, маўчыш, хітрун,
Дык растлумач мне, балабону,
Чаму так гучна звоніць звон?
— Я адкажу, ды ў крыўду не бяры,
Бо ён
Пусты, як ты ўнутры...

## ЧАРТАПАЛОХ

*(З Ляўко Баравікоўскага)*

Чартапалох
Хваліўся Лапуху: — Мой дружа,
Я так нагадваю, дальбог,
Сабою Ружу!
— Ага! Калючкамі падобны ты.
Ды не хапае ў кветках пекнаты...

## ДЗЯДЗЬКА НА ЗВАНІЦЫ

*(З Яўгена Грэбінкі)*

Уздзёрся дзядзька на званіцу,
Зірнуў уніз і закрычаў:
— Хто поўзае там, нібыта макрыцы?
Каб загадзя не знаў,
Даруй мне, божа,
Дык палічыў бы за казявак тых людзей...
...Угору глянуўшы, сказаў прахожы:
— Хто на званіцы? Чалавек ці верабей?

## СВІННЯ І РУЖА

*(З Леаніда Глібава)*

Свіння ў разарый забрыла
І ў клумбе ўздумала пакалупацца,
Ды аб калючкі лыч свой апякла
І пачала
На Ружу абурацца:
— Што за бур'ян тут развялі?
Ці ж ён дае карысць якую?
Нямала бачыла я на зямлі,
Ды ўпершыню сустрэла дрэнь такую!
Што ў паху тым,
Калі паколеш морду?
І, глянуўшы на Ружу вокам злым,
Прэч падалася горда.

---

Праўдзівы чалавек прыгожы і калючы!
Падколе хама ён балюча.



## ДЗЯЦЕЛ І САРОКА

*(З Мікіты Гадаванца)*

Хадзіць халасцяком — не соладка, браткі мае!..
І Дзяцел вырашыў жаніцца.
А тут Варона жару паддае:
— Ёсць на прыкмеце гарненькая маладзіца!
Не птушка — смак!
А як яна спявае!
А гаспадынька рупная якая!
— Так-так,—
Прамовіў Дзяцел.— Мне б хоць кінуць вокам,
Што гэна за яна?
— А што глядзець? Ці ж ты не ведаеш Сароку?
Вядома, ведаю. Але не лішне будзе нам
Апрабаваць кандыдатуру гэту...
І ён паслаў Сароцы доўгую анкету:
«Колькі гадоў?
Хто дзед? Хто баба?
А ці не маеш за мяжою сваякоў?
І ці здароўечкам не слаба?
Ці многа ты ясі?
Ці не храпеш уночы?
Дзяўчына шчэ? А мо згубіла гонар свой дзявочы?
На шлюб я згодзен, як адказ дасі!»
Сарока, прачытаўшы недарэчнае пасланне,
Пакрыўдзілася. Ахапіў яе шалёны гнеў:
— Ах, пень стары! Ты, пэўна звар'яцеў!

Інакш бы не задаў бязглуздыя пытанні...
Але, калі ад сэрца адлягло,
Сарока адмяла дакоры:
— Якое ж у яго раскошнае дупло!
А як ён спрытна лезе ўгору!
А што дурны — бяды такой...
Ён пад дуду маю — ого! — заскача!

---

Жыве суседка за сцяной,
Мужык яе — чынуша важны о-ё-ёй!
А перад жонкаю трымціць, як хвост сабачы...

## ШАКАЛ І ЛЕЎ

*(З Івана Гушалевіча)*

Шакал прыцёгся да Ільва з даносам:
— О, мудры валадар усіх часоў!
Як можаш ты цярпець грахі звяроў,
Калі зямля ўся стогне і нябёсы?
Мядзведзь і Тыгр, Рысь, Барс і Дзік-сякач,
Воўк, Ліс і прагная Гіена
Разбой вядуць, не хочуць жыць сумленна,
Звяркам малым ад іх хоць плач —
Жыцця не стала...
А ці ж не час на дэспатаў абрушыць гнеў?!

— Магчыма,— ухмыльнуўся Леў.—
Але чаму не ўспомніў ты Шакала?

---

Злачынец, рабаўнік,
Драпежнік капіталу,
Каб ад сябе адвесці грозную навалу,
Рад на хаўруснікаў свой пачапіць ярлык.

## КАЗА І БАРАН

*(З Яўгена Бандурэнкі)*

Спяшала сонейка на адпачын,
Спадала дзённая спякота,
Павеяў халадок з балота,
Туман бялёсы закурэў з лагчын,
Імглістай наплываў памалу хмарай...
У гэты час вярталася ў сяло атара.
Наперадзе, як атаман,
Вялікі, тоўсты і калматы
Ішоў стары Баран.
За ім — авечкі і ягняты.
А замыкала чараду
Каза блудлівая, рагатая.
Мінулі млын. Вады глынулі з рэчкі на хаду,

Бо смага дапякла праклятая.
І тут штось з Бараном здарылася:
Ці пекануў яго балюча авадзень,
Ці у галаве дур закруцілася,—
Ён ірвануў наперад шпарка, як алень,
І сігануў з разгону праз пляцень,
На момант агаліўшы свой баранні сорам.
Убачыла Каза і абурацца пачала,
І сараматіць Барана, і распякаць у дакорам:
— Я, дзякуй богу, пажыла...
І бачыла ўсялякае! Але такога хамства
Убачыць давялося ўпершыню!
Ды гэта ж непрыстойнасць! Хуліганства!
Як важаком абралі гэткую свінню?
Хвост задзіраць перад усёй атарай?
Каб ты прапаў!
— Чаго размэкалася, нібы на базары? —
Баран нарэшце узлаваў.—
Не пацярплю, каб нейкая Каза мяне шчэ распякала!
Я выпадкова асаромеўся, калі скакаў.
І хто б ужо, а ты лепш памаўчала!
Бо нарадзілася ты нават
З задзёртым угару хвастом...
— Брахня! Чаму ж, цікава,
Маўчалі ўсе кругом? —
Каза спытала.
Баяліся, відаць, рагоў тваіх,
Каб ты не забадала...
Я сам, прызнацца, апасаўся іх.

---

А байка дзве маралі мае:
Заганы часам бачым у другіх,
Ну, а сваіх —
Не прыкмячаем.
...Нямала развялося гэткіх Коз,
Дый Бараноў таксама не бракуе,
Якія крытыкуюць усур'ёз,
Калі саміх іх хтось пакрытыкуе.

## ЧЫЖ І СЫЧЫ

*(З Івана Манжары)*

З нагоды ўласных імянін,
Чыж запрасіў сяброў у госці.
На радасцях сам дзюбнуў келіх не адзін
І з ім зрабілася тут дрэнна штосьці,
Ён апынуўся пад сталом.
Звініць у галаве, усё плыве кругом,
Яму не да гасцей, яму так блага...
Яму й нямілы свет...
Нарэшце кончыўся банкет
І разляцелася схмялелая шарага.
Ды неўзабаве чуткі папаўзлі
Усё настойлівей, усё неверагодней:
«Чыж — п'яніца! Мы сведкамі былі —

Як ён куляўся па зямлі
І лаяўся на мове роднай...»
«Ды ён не праглыне і мошкі,
Калі не дзюбне трошкі...»
«Ён нават пахмяляецца ўначы,
Прапіў усё да крошкі.—
Крычаць Сычы.—
Ён ад сям'і адбіўся!
Ён дэбашыр!
Ён з Ластаўкай скруціўся,
Зацягвае яго распусты вір...»

---

Каб спаць спакойна
І плёткам харчу не даваць,
У госці запрашай дастойных,
Сычоў не варта запрашаць.

## БАРАН І ВЯСЁЛКА

*(З Анатоля Касмаценкі)*

Як толькі адшумеў вясновы лівень,
І сонца бліснула з-за хмар,
Вясёлка абняла абшар,
Зайграла самацветамі ў нябёсах зіхатліва.
— Глядзіце ўсе! Якое дзіва! —

Галёкнуў Певень, узляцеўшы на паркан,
Сабака забрахаў у захапленні,
Бык нават рыкнуў у здзіўленні...
Тут выйшаў з хляўчука Баран:
— Што? Дзе? Якія творацца дзівосы?
Чаго галёкаюць? Крычаць?
Чаму мне не даюць паспаць?
— А ты зірні ў нябёсы! —
Прагагатаў Гусак.—
Дык адпадзе і спаць ахвота.
Баран зірнуў: — Так-так.
Чаго ўталопіліся вы ў яе, бы ў новыя вароты?
Карысць якая ў ёй?
Вісіць і зыркае агнямі.
На розум мой,
Скажу між намі,
Калі б вясёлку крутануць,
Канцы крыху загнуць —
Мо параўналася б з бараннімі рагамі...

## ЖАЛУДЫ

*(З Івана Сварніка)*

Два Жалуды,
Зялёныя яшчэ, бо недаспелі,
На вершаліне Дуба побач блізенька віселі

І непакоіліся: — Упадзем, але куды?
Ці падрыхтуюць адпаведную нам глебу?
Ці прарасцём? А можа, з'есць які Свінюк?
Тады не узняцца нам да неба...
Ды шчэ пад намі нейкі сук
Танюткі, хісткі і слабы...
Каму паскардзіцца? Бядоты выказаць свае?
Вакол — адны Дубы...

---

Яно з цябе шчэ сокі п'е,
А ўжо — не прызнае!

## САБАЧЫ СЫН

*(З Пятра Красюка)*

Сабачы сын, малы Барбос,
Убачыўшы, як у звярынцы Льва кармілі,
Заяўкаў: — Я звярыну б перарос,
Каб гэтакія ўмовы мне стварылі!
З'ядае мяса — паўбыка!
А клетка? Не мая канурка...
...Пайшлі насустрач пажаданням шчанюка,
Каб ён не звягаў, што затуркан:
Прызначылі яму ільвіны рацыён,
Еш мяса — хоць распаражыся...

Расці, да Льва цягніся!
Ды... штосьці ён,
Хоць год мінуў і два —
Не можа дарасці да Льва,
Бо цюцьку гэткая не па плячы задача.

---

А рэзюме маё:
Прыродай кожнаму прызначана сваё —
Ільвом не стане сын сабачы.

## РАБКО І ЛАПУХІ

*(З Уладзіміра Івановіча)*

Быў у суседкі пёс — Рабко кудлаты,
Ён хату ўласную не пільнаваў,
А гойсаў па чужых дварах і загуменнях зухавата.
Вярнуўшыся, залазіў ён пад хату,
І пачынаў
Хвост ачышчаць ад шышак, лапухоў, калючак.
— Дзе ты бадзяўся, гад смярдзючы? —
Суседка лаяла свайго Рабка.—
Ва ўсіх сабакі, як сабакі,
Ты ж валацуга нейкі. На цябе няма ваўка...
Каб разарваў на дробныя кавалкі!
У двор прыносіш толькі бруд...

Рабко ў адказ скуголіў толькі вінавата,
Далей хаваўся ў цёмны кут,
І хвост зубамі церабіў заўзята.

---

Вось каб сусед мой — п'яніца і баламут,
Уразумеў, што жыць так не гадзіцца,
І змог ад перажыткаў без пакут,
Як той Рабко ад лапухоў, пазбыцца!

## БУЛАНЫ І КОТ

*(З Міколы Цішчука)*

На ферму конь Буланы
Прывёз парожнія бідоны з пад смятаны.
Насустрач Кот,
Аблізваючы рот,
Прамяўкаў, паказаўшы лапкай на бідоны:
— Дык, кажаш, што смятану здаў?
І ў тым квітку адзначана паўтоны?
А колькі ты сябе прыдбаў?
— Ні грама!
— Ой, ілжэш?!
— Кажу сумленна!
А Кот сваё: — Чаго пляцеш?
Прызнайся, што крадзеш...

— Чаму пра іншых, Кот, мяркуеш гэтак дрэнна? —
Пакрыўдзіўся ўсур'ёз
Буланы.
— Пытаешся! Каб мне даверылі смятаны
Воз,
Ці ж я не памачыў бы вусы?

---

У злодзея «крытэрый» свой:
Маўляў, пакрывіць і «святы» душой,
Калі ён ходзіць ля спакусы.



## РЫЖУХА

*(З Якоба Тама)*

Бадлівая Чарнуха
Пырнула Рыжую рагамі ў бок.
Завошта гэтакі быў зроблены наскок?
Мажліва, што бадлівую ўкусіла муха,

А можа адтаго, што ў статку
Была Чарнуха ўсіх дужэй
І ляснула Рыжуху «для парадку»? —
Як хочаш разумей...
Рыжуху крыўда ахапіла,
Яна рагамі злосна закруціла,
Але збаялася з дужэйшай бойку пачынаць.
А воддаль, кволая Пяструха на лужку хадзіла,
На ёй і вырашыла зло сарваць,
Падбегла, і як гахне ззаду!
Бязвінная і пакацілася кулём...

---

Хто мае сілу, мае ўладу —
Той любіць грукнуць кулаком!
А біты рады
Над іншым адыграцца слабаком...

## СВІННЯ

*(З Фелікса Кота)*

Свіння,
Упершыню сустрэўшы Гуску,
Зарохкала: — Дзіўлюся я —
На свет глядзіш ты надта вузка:
Манер, культуры, выхавання не хапае!

Адразу бачна, што з пераферыі ты, з сяла...
Хоць крылы ёсць, а не лятаеш,
Ды і ў карыта лап
Чамусьці не стаўляеш,
Замест шчацiння — пер'ем абрасла
І капытоў не маеш —
Няўклюда неабчэсаная і дурная...
Але ж трагедыі няма —
Займуся зараз я табой сама!
Чаго ты топчашся? Сюды залазь!
І... плюх Свіння па вушы ў гразь...

## СПРЭЧКА

*(З Петэра Сілса)*

Кавадла завяло размову:
— Калі па сутнасці сказаць,
У кузні — я аснова!
На мне ўсе цяжкасці ляжаць.
— Заткніся! — Молат абурыўся.—
Я цэлы дзень кую,
Метал мне вогненны скарыўся!
Аспрэчыць ролю хто вядучую маю?
— Вось завяліся! Смех...
А кожнаму вядома, безумоўна,
Што я галоўны! —

Старэчы захрыпеў натужна Мех.—
Хто з іскры полымя заўсёды раздзімае?
А кузьня без агню бывае?
Не!
...Напэўна б дыялог надоўга зацягнуўся,
Але Каваль ля горна апынуўся:
— Што ж вы не ўспомнілі мяне?
А я ж таксама нешта значу...
Дык гэтак вырашым задачу:
Не гожа выхваляцца, дакараць —
У кожнага свая заслуга —
І, калі дружна станем працаваць,
Не толькі меч, лямех для плуга,
А нешта большае мы зможам адкаваць!

### ГАНАРЛІВАЯ ЖАБА

*(З Адольфа Алунана)*

Агністы шар у мора скатваўся памалу...
А Жаба, прымасціўшыся на валуне ямчэй,
Нахабна выхваляцца стала,
Каб чулі усе, заквакала званчэй:
— Ледзь я свяцілу загадаю —
І скрыецца яно з вачэй!
Магічную я сілу маю...
...І дорачы ласкавае цяпло,

За гарызонт павольна сонейка зайшло.
А Жаба туркацела,
Ды ўзнімала крык:
— Я гэтак захацела! Я гэтак захацела!
І Сонца мне скарылася, сябры!

## «АПЕКУНЫ»

*(З Рыгора Пярова)*

У лесе, ля ракі, для Зайчанят
Аздараўленчы лагер збудавалі,
Каб водарам зялёных шат
Малыя апетыт свой наганялі,
Ды прыбаўляліся ў вазе, бадзёрыя раслі
І набіралі сілы.
А каб на кухні справы добранька ішлі,
Камісія туды штодзённа захадзіла:
З вялікай лыжкаю, задраўшы хобат,
Дырэктар Слон здымае пробу.
Затым туды брыдзе
Спаважна Бегемот пузаты,
Са смакам і заўзята
Сняданак ён у рот кладзе.
І тры разы на дзень
Закускі дэгустыруе Лісіца.
Ну, і Мядзведзь таксама з раніцы жуе,

Не можа толку аніяк дабіцца —
Ці слодычы ў мядку стае?..
Ды шчэ прадстаўнікі
З міназдрава, прафсавета —
Дзікі,
Ды Барсукі.
Ды з Гусаком-арганізатарам Глушцы-паэты —
Аздараўленчую кампанію выдатна правялі!
...Хоць Зайчаняты крышачку змарнелі,
Затое не хварэлі,
Падраслі!
Ну, а галоўнае,— апекуны паздаравелі!

•

## ЛІСА І КРОТ

*(З Яна Райніса)*

Ліса пастукалася: — Любы Крот,
Прыйшла павіншаваць цябе са святам!
І твой магутны род!
Ды паглядзець твае падземныя палаты!
Ды не магу зайсці — вузенькі ход...
Прынесла я віна, каб не журыцца...
Дапамажы ўвайсці хутчэй!
— За віншаванні дзякую табе, сястрыца!
Ды не прымаю сёння я гасцей.—
Крот адказаў.— Няма настрою весяліцца.

## ДЗЯДОК І ЮНАК

*(З Сулхана-Сабі Арбеліані)*

За баранінай пацелі
Дзед бяззубы і Юнак.
Раптам слёзы заблішчэлі,
Бы цыбулі злоснай з'елі.
Зацікавіўся кунак:
— Што ў вас за бяда, за гора?
Падзяліцеся са мной.
Пахістаў Дзед галавой:
— Мне зубастага абжору
Неўдаецца перагнаць...
А Юнак рукой махае:
— З Дзедам есці не жадаю!
Пачынаю я жаваць —
Ён — кавалкамі глытае...

## ТЫГР І ЛІСІЦА

*(З Ата Саліха)*

Ліса галодная блукала колькі дзён
І Тыгра напаткала:
— Ды што з табой? — здзівіўся ён.—
Аблезла. На шкілет падобнай стала...

— Ды вось жыву амаль што на вадзе,
Заўжды няўдачы,
Спажывы не прыдбаць нідзе.
— Кінь, Ліска! Не заходзься ў плачы.
Дапамагу табе ў бядзе.
Хадзем са мной да вадапою!
Збіраюцца там дзікія аслы,
Дык будзе нам і мяса і маслы...
І вось залеглі ў чаратах па-над ракою.
А тут, як кажуць, на лаўца і звер бяжыць —
Кулан прыйшоў напіцца.
Тады і кажа Тыгр да Лісіцы:
— Зірні, агеньчык у вачах маіх гарыць?
— Гарыць!
— Дык вось вучыся паляваць, сястрыца!
І сігануў з засады на Кулана,
Схапіў ахвяру ў кіпцюры.
...З тае пары
Жыццё ў Лісіцы стала не паганым:
Не ведае бяды,
Штодзённа шмат яды —
Сняданак і вячэра.
І цела нагуляла і сілу набыла яна,
І пачала лічыць сябе магутным зверам:
— Цяпер без Тыгра спраўлюся адна,
Адужаю Кулана!
І, высачыўшы пабуйней самца,
Накінулася на ахвяру нечакана!
Ды не ўдалося ёй пакаштаваць мясца —

Кулан так капытом Лісіцу ляснуў,
Што для яе свет божы згаснуў...

---

Хоць каля Тыгра і пакруціцца Лісіца,
Але не зробіцца Тыгрыцай.

## ПЫТАННЕ

*(З Авеціка Ісаакяна)*

З амбону бацюхна бубніў:
— Пан Бог за тыдзень сатварыў
Зямлю, ваду, свяцілы і нябёсы,
Вяршыні гор і пладародны дол,
Рыб і жывёл,
І птушак шматгалосых!
Каб чалавек і кожная істота
Маглі шчасліва і прывольна жыць,
І за сталом агульным есці з асалодай,
Ды славіць Бога і хваліць!..
Але папова балбатанне
Хтось нечакана перарваў:
— Даруйце, бацюхна. А вось пытанне —
А той, хто сам на стол папаў
У якасці прадмета харчавання,
Хвалу нябёсам як пачне спяваць?

Поп не збянтэжыўся. А палец ткнуўшы ўгору,
Стаў нечысціўца распякаць:
— Ах, ерэтык! Ну, як табе не сорам
Аспрэчваць боскае пісанне?!
У веры ісціннай, сляпой — душы выратаванне!



**КАПТАН**

*(З Хачатура Абавяна)*

У спадчыну скарб горац атрымаў.
І вось, зрабіўшыся багатым,
Завёў раскошныя палаты,
Па-княжаску зажыў, зашыкаваў!
Сябры,
Як камары,
Штодзень таўкуцца,
Ідзе гулянка, пір — гарой,
Шампанскае плыве ракой...

Гаспадару ў любові усе клянуцца,
Цалуюць, абдымаюць,
У госці запрашаюць.
Але быў горац не цурбан:
Заўважыў — зменшыліся капіталы...
Тады святочны скінуў ён каптан
І апрануўся ў лапсярдак жабрацкі, заняпалы
І аб'явіў, што ён банкрут.
І тут
Адразу адбылася перамена:
Хто шчэ здалёк яго раней вітаў,
Цяпер нібы не заўважаў,
Або з парога выпіхаў пад зад каленам.
Тады ў каптан найлепшы, дарагі
Ізноўку горац апрануўся
І свет — нібы перавярнуўся:
З паклонам да яго сусед адзін, другі,
Зноў карагод гасцей вясёлы закруціўся...
Ды неяк да вяльможы, трапіўшы на пір,
З бакалам горац падхапіўся
І так сказаў: — Каптан, ты тут кумір!
Ты званы на банкет! Табе пашана!
На свеце ты ўсяго важней!
Дык пі і еш, каханы!
А я — дамоў, бо стаў я разумней:
Раскошнай вопратцы тут толькі і хвала,
А чалавеку беднаму — дакоры.
І, скінуўшы каптан, паклаў на край стала
Ды ірвануў у... горы!

## СКВАПНЫ ПОП

*(З Вардкеса Бабаяна)*

Хоць з выгляду поп быў, здаецца, дурань,
Ды з прыхажан умеў сем шкур здзіраць,
Запрошваў столькі за хаўтуры,
Што боязна было і паміраць...
За шлюб, за хрэсьбіны, за памінанне, за радзіны
Грашыма і натурай браў:
Яечкі, сала, брынзу, мёд, масліны —
Нічога ён не бракаваў...
І ўсё стагнаў,
Што для яго насталі цяжкія часіны...
За колькі год
Поп накапіў багацця досыць!
І справіць боты мог бы без клапот,
Але хадзіў заўсёды па сялібе босы...
Вось неяк ён да бабкі бег
Спагнаць даўжок і даць узбучку,
Ды, нібыта на грэх,
Прабіў нагу на вострую калючку.
Скрывіўся жываглот,
Прысеў, агледзеў пятку:
— Ну, дзякуй богу, тут усё ў парадку!
А каб абуты быў? Дык сапсаваў бы бот...

## ПЯРСЦЁНАК

*(З Мушфікі)*

— Ах, любы мой, каханы мой мілёнак!
Каб я цябе ў разлуцы не змагла забыць,
Надзень на пальчык мне пярсцёнак.
— Навошта клопат з ім? Параю так зрабіць:
У дальняй старане
Глядзі на палец свой і думай пра мяне...

## МЫШ У СМЯТАНЕ

*(З Габдулы Тукая)*

У пограб, дзе на лёдзе малако стаяла,
Пралезла Мыш.
Не першы раз яна там харч шукала
І смела гойсала, скакала,
Ды прамахнулася і трапіла ў гладыш!
Мыш гіне... у смятане.
Няма адкуль чакаць выратавання...
А хочацца, а хочацца так жыць!
І вось, сабраўшы сілы,
Яна хвастом і лапкамі замалаціла,
Давай у гладышы кружыць...
І неўзабаве са смятаны масла збіла!

І ўпёршыся на гэты астравок,
Увішна з гладыша на полку — скок!
І з пограба адразу лататы!

---

Калі ў бяду патрапіш, не дай божа,
Не падай духам ты —
Настойлівасць знайсці ратунак дапаможа.

## ЧАПЛЯ-КРЫТЫК

*(З Закі Нуры)*

Старэчы драматург-Карась спраўляў свой юбілей
Сярод запрошаных гасцей
Сядзела Чапля.
Быў востры зрок яе, як шабля,
І дзюба доўгая, што піка.
Яна, як кажуць, не аднога з'ела Шчупака,
І ў крытыцы лічылася майстрыцаю вялікай!
І вось, узняўшы свой бакал,
Яна прамову закаціла:
— Карась! Не драматург ты — сіла!
Ты столькі вобразаў стварыў!
Заўсёды п'есы я твае цаніла!
Герояў ты ўзнімаў! Нягоднікаў — граміў!
Жыцця ты знаўца! Майстра рыбінага слова!

Жыві сто год! Ды будзь здаровы! —
І, выпіўшы бакал, аж засвяцілася уся
Ва ўсмешцы.
І тут, хапаючы закуску ў спешцы,
Цап-лап! — і з'ела Карася...

---

Хто ўмее лёсткамі ў душу залезці,
Той можа вас і з'есці.

## ХТО З'ЕЎ АВЕЧКУ?

*(З Мажыт Гафуры)*

Авечка ў Лясніка прапала.
Напэўна, трапіла Ваўку.
Ды доказаў няма. А ярасць чалавека абуяла.
І ён паклаў пісульку на пяньку:
«Хто пападзецца пад маю гарачую руку —
Мядзведзь ці Рысь, Воўк ці Лісіца,
Шакал, Куніца —
Кароткая размова будзе,
Не вырвецца жывы!
Дык лепей самі вы
Знайдзіце злодзея і прывядзіце мне на правасуддзе,
Я не дарую за Авечку!»
Сабраліся на круг звяры
І разгарнулі спрэчку:
— Не жарты, ліха пабяры!

Сур'ёзны нам Ляснік падкінуў ультыматум.—
Мацёры Воўк прамовіў хітравата.—
Злачынцу трэба
Неадкладна нам знайсці!
Бо ў Лесніка, браточкі стрэльба,
Усім труба, як не круці...
Тут кожны звер пачаў клясціся, адпірацца,
Міжвольна погляды іх скіраваліся на Зайца.
— Вось хто віноўнік нашае бяды! —
Усклікнуў Воўк мацёры.—
Каб ён не замуціў вады,
Дык гойсаў бы ў гуморы,
Не трозся і не калаціўся...
— Давай яго сюды! — Звяры раўнулі хорам.
...Як Заяц ні даказваў, як ён ні маліўся,
Што толькі есць адну траву,
Яму скруцілі галаву
І Лесніку з адносінай даслалі.

---

Мы скажам у маралі:
У дужага ўжо гэткія законы,
Што вінаваты заўсягды безабаронны.



## КІРУЮЧАЯ МУХА

*(З Закі Нуры)*

Быў воз
Вялізны, цяжкаваты.
Ды вёз
Паклажу Вол упарты.
Ён узапрэў. Сапе. Хвастом матляе.
Сляпнёў
І Аваднёў
Пякучых адганяе.
А тут шчэ на Вала
Аднекуль Муха-цакатуха надакучная сядае.
І бзынкаць і звінець над вухам пачала:
— Адказнасць у мяне якая!
Бясклопатна ідзеш ты і бяды не знаеш...
А я табе шлях азначаю,
Сачу,
Каб не звярнуў ты ўлева, а ці ўправа...
Э-э, кіраваць — нялёгенькая справа!
Па шчырасці сказаць хачу,
Каб не мае парады, дырэктывы, указанні —
Успёрся б ты ў якую твань...
Да мэты не дайшоў бы да змяркання.
А ну-тка, весялей наперад тарабань!
А Вол ішоў сабе і бзынканне не слухаў,
Цягнуў ён воз, а заадно і Муху.

«Указчыкаў» хапае ў нас,
А цягне воз — рабочы клас.

## СУЧАСНАЯ АФРАДЫТА

*(З Шарыфа Бікулы)*

Міф кажа нам — багіня Афрадыта
Марскою пенаю народжана на свет...
...Сядзеў я ў скверыку, выдумваў баечны сюжэт,
А тут мадам шаўкамі і нейлонам апавіта,
Ідзе, калышацца, пад залаты звон бранзалет.
На шыі ў тры рады каралі,
А між уздыбленных грудзей, прываблівы кулон,
Аздоблены пярсцёнкам кожны палец,
Над галавой японскі парасон.
На ланцужку бульдог дзябёлы
Наперадзе ідзе.
Здаецца не яна, а ён з лянотай невясёлай
На выгулку мадам вось гэтую вядзе.
Яна ж сустрэчных аглядае млява,
Адкінуўшы з пагардай галаву!
А хто ж яна? Даведацца цікава:
Мо кранаўшчыца, што ўзнімае ў сіняву
Цяжкія блокі і панелі?
А мо эстрадны салавей,

Што меладычныя нам сыпле трэлі
І робіць на душы святлей?
Ці зорка знакамітая кінаэкрана?
А можа быць...
...Пачаў я памяць варушыць
І ўспомніў нечакана:
— Эгэ! Дык гэна ж, несумненна —
Сучасная багіня! Прысягнуць магу!
Народжаная пенай...
Гандлюе Афрадыта півам на рагу!

### МОСЬКА ЦЯЎКНУЛА

*(З Сайфі Кудаша)*

— Барбос, навошта забрахаў?
— Ды, вунь, Кудлай заскавытаў...
— Кудлай, чаго ты ўзвыў, цікава?
— Бо залямантаваў Лягавы.
— А ты, Лягавы, што загаўкаў?
— А як жа! Звягу ўзняла Шаўка!
— З якой прычыны Шаўка завялася?
— Дык Жучка брэхам залілася...
— Ты, Жучка, што заекатала?
— Я толькі Моську падтрымала.
— Што Моська можа нам сказаць?
— А я прысніла,

Нібы Барбос пачаў брахаць,
І цяўкнула штосілы!

---

Спрасонку цяўкне Мосечка малая,
А ўслед сабачая ўся зграя.



## ДЗВЕ РАКІ

*(З Мухтара Барбугулава)*

Да мора напрасткі
Цяклі пад сонцам дзве Ракі.
Адна плыла спаважна, велічна, спакойна,
Не парушаючы вакольнай цішыні.
Другая — неслася шалёна,
Кіпела і бурліла, нібы на агні,
Варочала шумліва камяні,
Раўла, гула,

Усіх пужала...
Бо глыбіні
Ёй неставала...
А першая Рака глыбокаю была!

---

Мудрэц спакойны, поўны моцы,
Глыбокі, не шуміць дарма.
А ў балабона хоць і шмат эмоцый,
Але карысці ад таго няма.

## СУСТРЭЧА Ў ЗААПАРКУ

*(З Хікмета Зіі)*

Убачыўшы скрозь краты Гусака,
Прамовіла Ліса лагодна:
— Куды спяшаешся, шаноўны, любы, родны?
Хвіліну пачакай!
Душу з табою адвяду ахвотна,
Магчыма мудрую параду мне дасі,
Як вырвацца мне з клеткі?
У лесе засталіся сіратамі дзеткі...
Мо падарунак ім перадасі?
Падходзь бліжэй! Цябе не пачапаю...
— Дарэмна распінаешся! — Прагагатаў Гусак.—
Пісьменны. Байкі я чытаю.

І нораў твой я дасканальна знаю.
Вунь ты ашчэрылася як!
Якая хцівая і ў клетцы морда...
Бывай! — І далей рушыў горда.

## БАРСУК І ЛІСА

*(З Коста Хетагурава)*

Барсук
Дамоў спяшаўся.
Ды ўбачыў ён Лісу,
Убачыў і... спужаўся!
Паводзіла яна сябе ненатуральна:
Падскоквала, хісталася ў бакі,
Чаплялася за купкі і пянькі,
То падвывала, то брахала аглушальна.
— Ды што з табой?
Ты захварэла? Ці пераспелага паела вінаграду? —
Занепакоіўся Барсук.— А божа мой,
П'янáя ты! З вяселля дыбаеш? Або з параду?
— Ах, дарагі сусед,
Са мной неверагоднае здарэнне:
Я на сялібу бегала, каб раздабыць што на абед,
І трапіла, бы ў ачмурэнні,
Не на куратнік я, а ў вінны пограбок...
А смага дапякла — няма цярпення!

Вось і глынула з чана я адзін-другі глыток.
Ці ж ведала, што ў ім атрута?
Як толькі людзі п'юць?!
Ліса хацела сказ свой працягнуць,
Ды ў гэтую мінуту
Барсук, скрывіўся, пахіснуўся,
Адчуў у сэрцы боль
І непрытомны расцягнуўся...
Яго адужаў алкаголь!
...— Дык жа здаровенькі мы будзем! —
Закончыў байку Тамада.—
Звярам — вада,
Віно — на радасць людзям!

## ПАЦУК-КЛАДАЎШЧЫК

*(З Гамзата Цадасы)*

На зернесклад
Накіравалі
У якасці кладаўшчыка
Старога Пацука.
І справы нібыта пайшлі на лад.
Хаця звяры і заўважалі,
Што той Пацук
Стаў надта хутка акругляцца...
І вось рэвізія знянацку — грук!

Калі грунтоўна Вожык-рэвізор узяўся разбірацца,
Наяўнае па накладных звяраць,
Дык аж за галаву схапіўся!
На складзе збожжа шмат не далічыўся...
І акт пачаў складаць.
Але Хамяк за Пацука ўступіўся:
«...Ну, памыліўся... Што нам вэрхал узнімаць?
Я супраць — прынцыпова!
Ну, папярэдзім, вусную дадзім вымову,
А там, праз год,
Мы падашлём камісію другую.
І, калі зноў змахлюе, абармот,
Адразу кару панясе двайную!»
Мінуўся час.
На склад прыйшоў падслепаваты Крот,
А з ім дзве шустранькія Мышкі.
Праверылі і выявілі... лішкі!
І Пацуку зноў забяспечаны спакой,
Грызе пшанічку ён, ды пуза гладзіць.
Хоць чуткі ходзяць стараной,
Што недастача ўсё расце на складзе...
Ды чуткам хто дасць веры,
Калі выходзіць гладка на паперы?

## КОТ І ЛЕКТАР

*(З Валянціна Дзімітрыева)*

Пра забабоны лекцыю чытаць
Сабраўся Лектар.
А сам пачаў між іншым разважаць:
«Ёсць у народзе верныя прыкметы —
Дарогу чорны кот перабяжыць,
Ці з вёдрамі пустымі бабу стрэнеш,
Дык поспеху не быць,
Нямашака сумнення!»
А тут, нібы на грэх,
Кот чорны перасёк яму дарогу...
Наш Лектар раззлаваўся не на смех:
— Ізноў на лекцыі не будзе анікога!..



## ЛЫЖКА І ПЛУГ

*(З Кірыла Ламагіна)*

Калі палуднавалі хлебаробы ў полі,
Убачыла тут Лыжка Плуг,
Ды ўсклікнула: — Ах, мілы друг,
Не меркавала я ніколі,
Што ў працы нашай місія адна:
Арэш ты ніву,
Ну а я варочаю да дна
У місцы кашу ды падліву!
Калі пасватаеш мяне,
Дык шчасце нас не абміне,
Мы зажывем суладна ўсім надзіва!
— Прабач,— на Лыжку Плуг з усмешкаю зірнуў,—
Хоць ты арэш, але гатовае.
А я ўздзіраю цаліну!
І ўпадабаў сабе я больш бядовую,
Напарніцу па працы — Барану.

## ЗМЕСТ

### ПАЛЬМА ПЕРШЫНСТВА

## ДЗЯДЗЬКА НА ЗВАНІЦЫ

**Валасевіч Э.**

**В 15** Бегемот і іншыя: Байкі.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 150 с., іл.

55 к.

Гэта кніга вядомага беларускага сатырыка Эдуарда Валасевіча складаецца з двух раздзелаў. У першы ўвайшлі арыгінальныя творы байкара. У другім раздзеле змешчаны лепшыя байкі аўтараў братніх нацыянальных рэспублік у яго вольным перакладзе.

В $\frac{4702120200-149}{М\ 302(05)-82}$ 43—83

ББК 84Бел7

Бел 2

*Эдуард Станиславович Волосевич*

**Бегемот и другие**

Басни

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. М Яўсееў. Мастак С. А. Волкаў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар А. А. Бачанкова

ІВ № 1686

Здадзена ў набор 25.06.82. Падп. да друку 11.10.82. АТ 05238. Фармат 60×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,70. Ум. фарб.-адб. 5,85. Ул.-выд. арк. 5,08. Тыраж 8000 экз. Зак. 2729. Цана 55 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.